*Лозунг нумара:*

**Ганарыся Домам сваім**






# К КУЛЬТУРА


ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 1 (314) 3 – 16 студзеня 1998 г. КОШТ 3000 РУБЛЁЎ


ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ

Фота Генадзя ЖЫНКОВА
Калаж Наталлі ОВАД

## ЛАЎРЫ НА РАСТВО

**У Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь на Раство Хрыстова віншавалі лаўрэатаў прэміі "За духоўнае адраджэнне"-97. Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ўручыў дыпломы лаўрэатаў і медалі: брэсцкаму мастаку Мікалаю Кузьмічу, які ўзнавіў Святы крыж Прападобнай Еўфрасінні Полацкай; мастацкаму кіраўніку Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча Міхасю Дрынеўскаму; мастацкаму кіраўніку Дзяржаўнага акадэмічнага рускага драматычнага тэатра імя М.Горкага Барысу Луцэнку; мастацкаму кіраўніку хору хлопчыкаў пры Мінскім Епархіяльным упраўленні Беларускай праваслаўнай царквы Таісіі Міронавай; нашаму земляку, расійскаму пісьменніку Міхаілу Расолаву, які ахвяраваў свае грошы на будаўніцтва храма на Гомельшчыне. У гэты ж вечар былі ўручаны і спецыяльныя прэміі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь за дасягненні ў галіне мастацтва і культуры ў 1997 годзе. Лаўрэатамі ў розных намінацыях сталі кампазітар Дзмітрый Смольскі (музычнае мастацтва), салістка оперы Наталля Кастэнка (тэатральнае мастацтва), доктар мастацтвазнаўства Рычард Смольскі (мастацкая крытыка), скульптар Генадзь Буралкін (выяўленчае мастацтва), мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь Міхаіл Фінберг (эстраднае мастацтва), доктар мастацтвазнаўства Яўген Сахута (народная творчасць), пісьменнік Георгій Марчук (літаратура), кінарэжысёр Юрый Марухін (кінематаграфія). Урачыстасці завяршыліся святочным канцэртам.**

# Ганарыся

Калонка рэдактара

## АДНОЙЧЫ РАНКАМ...

... уключыўшы радыёпрыёмнік і перагарнуўшы стос паперак з тэзісамі для артыкула пад рубрыку "калонка рэдактара", я зразумела, што не хачу гаварыць пра тое, пра што меркавала раней. У гэтыя хвіліны па радыё гучаў Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь. Гімн, для якога мы так і не знайшлі яшчэ адпаведнага тэкставага варыянта. І падумалася вось пра што...

Ніхто, бадай, не аспрэчыць тэзу: кожнае грамадства выхоўваецца праз маральныя крытэрыі, а яшчэ — праз эстэтыку, візуальную і вербальную. Але тое, што мы бачым і чуем штодзённа, далёка не бяскрыўдная какафонія гукаў, слоў і фарбаў.

Прафесіянал ад культуры — "зброя" інтэлектуальная, ідэалагічная. Яго ўплыў на душэўны і духоўны стан асобы, а значыць і нацыі, наймагутны. Але давайце прааналізуем, што мы вымушаны спажываць у нас, на Беларусі, дзякуючы камерцыялізацыі інфармацыйна-культурнай прасторы. З тэлеэкранаў, прынамсі, — плыні крывавых "жахаў", эстрадную пошасць, слэнгавую непісьменнасць вядучых пэўных праграм, якія, прабачце, літаральна "спісаныя" з TV-прадукцыі суседніх краін, і гэта пры тым, што суседзі бессаромна "перадралі" свае "ток-", "шок-" і іншыя шоу з амерыканскай машыны часу.

Дарэчы, бясконцыя беларускія вячоркі, якія гадзінамі транслююцца на БТ і якія нібыта павінны замяніць нам нацыянальны дух сучаснай культуры, часам выклікаюць супрацьлеглую рэакцыю: няўжо няма ў нас, акрамя аўтэнтыкі, ніякіх іншых высокіх мастацтваў? Дык, мусіць жа, ёсць, калі славутая Мансерат Кабалье жадае спяваць у Маскве пад дырыжорскую палачку беларускага маэстра з Нацыянальнага опернага тэатра; калі нашы піяністы трыумфальна крочаць праз самыя прэстыжныя сусветныя конкурсы, калі блізкія і далёкія краіны бісіруюць беларускаму балету; калі карціны нашых мастакоў цэлымі калекцыямі набываюцца замежнымі бізнесменамі; калі... Дык чаму ж не "раскручваць" уласных зорак, не расказваць пра іх штодзень? Так, падтрымаць іх фінансава пакуль не выпадае, але ніхто не перашкаджае нам узняць сёння маральны прэстыж Асобы, якая стварае духоўнасць. Прыйшоў час выбару: або мы будзем аддаваць дзяржаўную інфармацыйную прастору пад рэкламу бясконцай амерыканскай гумкі, або будзем культываваць пачуццё гонару за дасягненні ўласнай Айчыны. Бо факт: сэрцы людзей напітваюцца негатывам маскультуры, а душы ўжо проста не прымаюць на сваёй зямлі засілля амерыканізацыі. Падумайце, дзяржаўныя мужы, навошта нам нізкапробная заакіянская "эстэтызацыя"? А тым больш, у нашанскай, не менш нізкапробнай інтэрпрэтацыі?

Дык можа, пачнем вучыцца правільна прамаўляць словы з роднай мовы? Узяць хаця б апошні, 7 студзеня, урачысты вечар у Оперным тэатры, на якім уручаліся высокія прэміі "За духоўнае адраджэнне". Здзівіла не толькі тое, што вядучая часам рабіла націск у словах не па кананізаваных правілах. Мусіць, яшчэ больш здзівіла, што ў салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга ўвогуле не знайшлося ніводнай песні на нацыянальнай мове: не толькі мне было няёмка за папуры з пакрытых пацінай гадоў песенек кшталту "капитан, капитан, улыбнитесь...". Ну, а той-сёй з салістак не пашкодзіла б добра падумаць перад люстэркам, перш чым выходзіць на сцэну ў... летніх шлёпанцах, няхай сабе і на платформе. Такі "пляжны" імідж, зразумела, не для "кантэкста" опернай сцэны і не для залы, дзе прысутнічалі самыя высокія дзяржаўныя чыны, духоўныя асобы і дыпламатычны корпус... Пачуцця гонару за айчынную эстраду я ў гэты вечар не адчувала.

Ну, ды што там вечар! Адзін мастак нядаўна сказаў: "Гонару за нацыянальную культуру ў народзе, а асабліва ў кіруючым звяне бюракратыі, увогуле не існуе... Гонар за яе існуе бадай у самім асяроддзі творцаў. І таму ў нас хоць хто заўгодна можа прадстаўляць краіну на міжнародным узроўні, нават геній XX стагоддзя, — народу і чыноўніку гэта ўсё роўна". Хтосьці можа запярэчыць: маўляў, сітуацыя надта гіпербалізаваная, а хтосьці, наадварот, — не, гэта яшчэ мякка сказана. Але давайце падвядзем гэтую рытарычную фармулёўку пад нашую рэчаіснасць і зададзімся пытаннем: а чаму? Асабіста я ўпэўненая: не любім мы самі сябе і не спрабуем палюбіць. І ці не таму амаль слязу выціскае адзіны айчынны кліп у айчынным аўтобусе з айчынным Віктарам Вуячычам, які яшчэ да таго ж гаворыць словы любові на адрас сталіцы і яе людзей па-беларуску? Мы, як дзеці, радуемся гэтаму светламу пасылу да суайчыннікаў!

А між тым, Расія даўно ўжо праз караценькія тэлевізійныя кліпы, праз звычайныя рэкламныя расцяжкі або стэнды на вуліцах ненавязліва выхоўвае патрыятычныя пачуцці сваіх суграмадзян. Выхоўвае за кошт вельмі дзейсных ключавых словаў: "я люблю цябе", "мы любім вас..." Дык чаму ж нам не выкарыстаць такія "тонкія матэрыі", аддача ад якіх — павага да Бацькаўшчыны, да таго, што створана ў роднай дзяржаве? Гэта адзінае пачуццё, якое не раз'ядноўвае, а аб'ядноўвае грамадства, працуе і на душу, і на эканоміку, і на палітыку краіны.

... І тады, уключыўшы адным ранкам радыё, я пачую нарэшце не проста знаёмую мелодыю без слоў, а Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, які вершаваным радком, напісаным высокім шчылем, звернецца да кожнага грамадзяніна, да народа, да нацыі: ганарыся Домам сваім!

**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

## Іван Шамякін: "... КАБ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ДУХ ЖЫЎ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА ЖЫЛА"

***Мы прызвычаены да таго, што пісьменнік у сваіх творах вырашае сацыяльныя праблемы, заклікае да ўзвышаных ідэалаў, што найпершы яго клопат — клопат "літарацкі". А вось як жыве пісьменнік у няпростых варунках нашага часу, як вырашае іншыя свае праблемы, зазвычай не ведаем. Сёння пра свае клопаты, праблемы, пра сваё жыццё-быццё распавядае народны пісьменнік Беларусі Іван Пятровіч ШАМЯКІН:***

— Жывецца, канешне, цяжка: матэрыяльна цяжка, а тут у дадатак яшчэ хваробы — значыць і маральна цяжка. Узрост мой такі, што ўжо думаецца не пра вясёлае — пра фінал. Нехта з класікаў сказаў: "Пакуль мы маладыя — мы бессмяротныя". Хачу сказаць, што духам я не падаў да гэтага часу і актыўна працаваў, нават маладыя калегі-пісьменнікі здзіўляліся: амаль кожны год выдаваў аповесць, апошнім годам — нават дзве.

Зараз захварэла Марыя Філатаўна, мая жонка, і, канешне ж, працуецца цяпер ужо не так. Але побач з няшчасцем ёсць і радасць: дачка Алеся нарадзіла хлопчыка і назвалі яго Ванем... А да хваробы жонкі, калі ўсёй сям'ёй былі на дачы, я пісаў новую аповесць "Губернатар". Гэта аповесць пра чалавека, які займаў кіруючую пасаду, пачаў вайну з мафіяй, але мафія яго ўрэшце перамагла.

**— Адна з тэм нашай сучаснасці...**

— Так, асноўная праблема сучаснай літаратуры, на маю думку: пошукі станоўчага героя. Характэрна гэта не толькі для нашай, а і для рускай, і ўкраінскай, і іншых літаратур СНД. Пра каго сёння пісаць? Каго рабіць героем? Пра сучасных "новых", пра гэтых капіталістаў, якія нажываюць сёння першапачатковы капітал? Ды ніхто з класікаў ніколі не рабіў такіх асоб станоўчымі героямі! Хаця сярод іх былі ў свой час сапраўды высакародныя людзі: Марозаў, Мамантаў, Траццякоў — яны былі расійскія патрыёты. Марозаў — увогуле асоба незвычайная: дапамагаў бальшавікам, ведаючы іх праграму. Альбо Траццякоў: падарыў унікальную калекцыю карцін сваёй дзяржаве. Такіх спонсараў-патрыётаў, на жаль, у нас зараз няма...

**— Гэтая праблема літаратуры звязана з надзённай праблемай нашага грамадства: як выхаваць сёння ў складаных**



***Нельга (а наогул — і не трэба) уявіць сабе арганізацыю прасторы сучаснага горада ці мястэчка без помнікаў і скульптур. Гэта тое, што надае гораду своеасаблівасць, што разбурае геаметрычную аднастайнасць забудовы, што нагадвае аб нацыянальных і дзяржаўных каштоўнасцях. Гэта, не ў апошнюю чаргу, — сродак грамадзянскага выхавання і ідэалагічнага ўздзеяння. На нашай памяці яшчэ тыя часы, калі пытанні манументальнай прапаганды вырашаліся планава, проста і лёгка, бо асноўнымі аб'ектамі яе былі дзеячы камуністычнага руху, галоўным чынам — Ленін. Сотні (ці не тысячы!) фігур і бюстаў правадыра сусветнага пралетарыяту да гэтай пары стаяць на самых бачных месцах беларускіх гарадоў, мястэчак. Сёння гэта — не столькі помнікі гістарычнай асобе ці нядаўнім часам маштабнага камуністычнага эксперымента, гэта таксама сведчанні беларускай талерантнасці, ураўнаважанасці. (Але апошнім часам усё цяжэй тлумачыць іх існаванне маленькім грамадзянам беларускай дзяржавы, бо гэта — яшчэ і помнікі бязлітаснаму ідэалагічнаму "рэкету", кажучы па-сучаснаму, і нашай нядаўняй грамадзянскай слепаце.) Ды што — Ленін! У Мінску да гэтай пары адну з плошчаў на галоўным праспекце "ўпрыгожвае" велічная фігура ўсесаюзнага старасты Міхаіла Калініна — асобы бляклай, недарэчнай і гістарычна бессэнсоўнай...***

## ХТО ЎЗЫДЗЕ НА ПАСТАМЕНТ?

***Год таму пытанні кантролю за манументальнай прапагандай на прасторы краіны перайшлі пад патранаж аддзела музеяў і выставаў міністэрства культуры. Вось што распавёў аб мінулагоднай працы аддзела і планах на гэты год ягоны начальнік Сяргей МАСЛОЎСКІ:***

— На працягу апошніх гадоў на розных узроўнях беларускага грамадства і

# Домам сваім

**варунках нашага жыцця патрыятызм і высокую маральнасць у грамадзян нашай дзяржавы?**

— Найперш арыентаваць нашу школу на нацыянальнае, беларускае. Трэба, каб нацыянальны дух жыў і беларуская мова жыла. У адкрытым лісце да Прэзідэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі ў свой час я выказаў маё стаўленне да гэтага. Прыгадаю, што я там ставіў пытанне так: у сувязі з двухмоўем было б самым правільным пайсці па тым жа шляху, што і Бельгія. Там у XIX ст. склалася такая гістарычная сітуацыя: насельніцтва краіны складалі фламандцы і балонцы. Балонцы карысталіся французскай мовай, а фламандцы — дыялектнай, фламандскай. Пазней, у XX ст., фламандцаў стала больш, а дзяржаўнай лічылася ўвесь час мова французская. Фламандцы пачалі бунтаваць. Тады сабраўся іх мудры парламент не без удзелу караля, і ў 50-х гадах XX ст. быў прыняты закон аб тым, што для займання дзяржаўных пасад у любой частцы краіны — ці то фламандскай, ці то балонскай, неабходна веданне дзвюх моў. Ці ты настаўнік, ці ты чыноўнік, ці ты чыгуначны чыноўнік, павінен валодаць і французскай, і фламандскай мовай. У згаданым адкрытым лісце да Прэзідэнта я прапанаваў такую ідэю: для займання дзяржаўных пасад у нашай краіне ад пасады сакратара сельсавета да пасады міністра — абавязковае веданне дзвюх моў, і рускай і беларускай. І не ўзнікала б тады праблем з вывучэннем беларускай мовы, тады б бацькі самі прымушалі сваіх дзяцей вучыць мову, бо бачылі б перспектыву; прынамсі не бегалі б і не вызвалялі іх ад вывучэння роднай мовы. На жаль, з маіх калег-пісьменнікаў ніхто не выказаўся тады, не ўнёс нейкіх сваіх прапаноў...

**— Выхоўвае патрыятычнае пачуццё ў чалавеку літаратура. Не так даўно пабачыў свет ваш раман "Вялікая княгіня". Зварот да гістарычнай тэмы сёння, відаць, невыпадковы...**

— Зварот да гісторыі свайго народа характэрны не толькі для нашай літаратуры. У рускай літаратуры пісьменнікі-патрыёты звярталіся да гэтай удзячнай тэмы таксама. І вось у апошні час пабачыў свет мой раман, раман Вольгі Іпатавай "Залатая жрыца Ашвін", п'еса Аляксея Дударава "Князь Вітаўт". Наогул, трэба паболей выдаваць беларускай літаратуры, распаўсюджваць яе, падняць тыражы, і, канешне, зрабіць беларускую кнігу танней, а значыць, даступней для насельніцтва. Пакуль што беларускія газеты ў нас ёсць, літаратурна-мастацкія часопісы выдаюцца — усё гэта павінна захавацца і, несумненна, каштаваць танней...

**— Іван Пятровіч, што вы пажадаеце нашым чытачам у Новым годзе?**

— Я ведаю, што вашу газету чытае ў асноўным інтэлігенцыя. І я хачу звярнуцца да сваіх калег-творцаў: пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, пажадаць ім новых цікавых твораў, і яшчэ — каб у Новым годзе нам усім жылося ну хоць крыху лепш!

**Гутарыла**
**Алена РЫГОРАВА**

дзяржавы былі выказаны прапановы па ўстаноўцы новых твораў манументальнага мастацтва. Перш за ўсё — гэта помнікі дзеячам беларускай гісторыі і культуры. Былі нават праведзены конкурсы па асобных аб'ектах, маю на ўвазе, напрыклад, помнікі Скарыне — у Мінску, Сімяону Полацкаму — у Полацку. Наогул, гэтыя праекты, па якіх прыняты адпаведныя рашэнні, — рэалізуюцца. Можа, не так хутка, як было б пажадана, можа, не заўсёды і творчы бок конкурсаў быў задавальняючы. Яшчэ адзін фактар — самастойнасць рэгіёнаў. Вобласці атрымалі магчымасць самі вызначаць аб'екты манументальнай прапаганды і выкарыстоўваць гэтую магчымасць не заўсёды ў адпаведнасці з высокімі мастацкімі патрабаваннямі. Так з'яўляюцца аб'екты кшталту помніка Шагалу ў Віцебску — помнік не благі сам па сабе, але ж на тым месцы, дзе ён устаноўлены, выглядае, мякка кажучы, недарэчна... Каб пазбегнуць надалей тых памылак і недарэчнасцей, намі распрацавана "Інструкцыя аб парадку праектавання, вырабу, устаноўцы твораў манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва ў асяроддзі гарадоў і пасёлкаў Беларусі". Зараз яна на стадыі зацвярджэння. З прыняццем "Інструкцыі..." стыхійна на сённяшні дзень працэс з'яўлення помнікаў увойдзе ў нармальнае рэчышча. Распрацавана таксама палажэнне аб дзяржаўным экспертным савеце пры міністэрстве культуры. Згодна з ім, значныя творы манументальнага мастацтва, якія ўваходзяць у структуру дзяржзаказу, у тым ліку і ў абласным маштабе, без заключэння экспертнага савета не могуць ні выраблядца, ні ўстанаўлівацца.

Аднак гэта толькі пачатак справы. Зараз па даручэнні міністра наш аддзел рыхтуе прапановы па выпрацоўцы Праграмы манументальнай прапаганды. У яе ўвойдуць, зразумела, і прапановы ад абласцей. Мяркую, што менавіта 98-ы год стане вызначальным у гэтай справе. Пасля зацвярджэння Праграмы не трэба будзе прымаць асобную пастанову па кожным асобным помніку. Будзе акрэслены і выхаваўчы накірунак манументальнай прапаганды, чарговасць і значнасць помнікаў будзе вызначацца ў адпаведнасці з вартасцю тых ці іншых асоб для беларускай дзяржавы і беларускага народа. Адным з першых аб'ектаў, што ўвойдзе ў Праграму, будзе помнік Пятру Машэраву, які мяркуецца паставіць на праспекце яго імя. Праца над помнікам яшчэ ў самым пачатку, яна ініцыіравана Пастановай Саўміна аб святкаванні 80-годдзя з дня нараджэння Пятра Міронавіча, што прыпадае на 26 лютага гэтага года.

Другі бок справы — устаноўка надмагільных помнікаў выдатным дзеячам беларускай дзяржавы і культуры. Гэта — таксама пласт культуры, гэтай працай займаюцца лепшыя скульптары. Фінансаванне ажыццяўляецца з бюджэту ў адпаведнасці з пастановамі ўрада аб ушанаванні памяці. Зараз, напрыклад, рыхтуюцца да ўстаноўкі помнікі Віктару Тураву і Уладзіміру Алоўнікаву.

Наогул, пытанні манументальнай прапаганды, нарэшце, зноў бяруцца пад увагу дзяржавы. Мяркую, 1998 год прывядзе да істотных зрухаў у гэтай справе, і, такім чынам, будзе закладзены яшчэ адзін камень у падмурак выхавання нацыянальнай годнасці беларусаў.

*Хацелася б падзяліць аптымізм Сяргея Іванавіча. Але ж у справе "манументальнай прапаганды" ёсць яшчэ адзін аспект. Што рабіць з тымі творамі, якія ўжо існуюць на Беларусі? Большасць з іх былі створаны ў часы камуністычнай дыктатуры і нічога агульнага з выхаваннем нацыянальнай годнасці не маюць. Да таго ж устаноўлены яны на найбольш бачных, прывабных месцах, у адпаведнасці з добра распрацаванай камуністамі сістэмай ідэалагічнай апрацоўкі народа. Я не прыхільнік вандалізму, не лічу выскакароднымі "брыкаць здохлага льва", да таго ж многія з камуністычных помнікаў сапраўды маюць мастацкую каштоўнасць. Але ж нельга адмаўляць, што большасць з іх ніякім чынам не ўпісваюцца ў сучасную сістэму маральных каштоўнасцяў беларускага грамадства. І тут ні экспертны савет, ні аддзел музеяў і выстаў, і ніякі іншы аддзел міністэрства культуры канчатковага рашэння не прыме, тут можа быць толькі высокае дзяржаўнае рашэнне.*

**Ігар КЛОКАЎ**





***Ганаровае званне "народны" даецца на ўсё жыццё, гэта — сведчанне ўвагі да творцаў, што прысвяцілі сябе Беларусі і чый лёс непарыўна звязаны з краінай. Аднак ці заўсёды дзяржава памятае аб сваіх "народных", калі артыст перастае выходзіць на сцэну, а мастак ужо не можа трымаць у руцэ пэндзаль? Гэтым пытаннем задаліся ў міністэрстве культуры перад навагоднімі святамі, і з ініцыятывы міністра нарадзілася дабрачынная акцыя — без прыгожай назвы, але з вельмі прыгожым вынікам. 24 дзеячы культуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь, пенсіянеры, якія маюць званне "народны", атрымалі навагоднія віншаванні ад міністра Аляксандра Сасноўскага і важкія падарункі — ёмкія прадуктовыя наборы, якія былі дастаўлены кожнаму асобна. Сціплы знак увагі, спадзяюся, дадаў ім святочнага настрою і радасці. Як прызнаўся кіраўнік спраў міністэрства Павел Фамічоў, арганізацыйнай працы было шмат, але ж расчуленая ўдзячнасць у адказ пацвердзіла, што яна была патрэбная.***



# А ЧАМУ Б І НЕ?

Дабрачынная акцыя праводзілася ўпершыню і здзейснілася дзякуючы фінансавай дапамозе шэрага прадпрымальнікаў-арандатараў установаў міністэрства культуры. На знакі ўвагі пенсіянерам не было выдаткавана ніводнага рубля бюджэтных сродкаў. Грошай, што ахвяравалі прадпрымальнікі, хапіла не толькі на падарункі народным артыстам, але таксама і на віншаванні ветэранаў працы міністэрства, і на дапамогу дзвюм дзіцячым установам: Вілейскай спецыяльнай школе-інтэрнату для дзяцей з парушэннямі мовы, дзе вучацца 216 дзяцей, і Блоньскаму рэспубліканскаму дому дзіцяці ў вёсцы Юзэфава Барысаўскага раёна, у якім выхоўваецца 72 дзіцяці.

Ведаю, што доўгія пералікі — парушэнне галоўных законаў журналістыкі. Але ж, шаноўныя чытачы, лічу патрэбным даць яшчэ адзін алфавітны спіс — тых, хто вылучыў сродкі (вядома ж, не лішнія), каб свята прыйшло да ветэранаў і дзяцей:

— таварыствы з абмежаванай адказнасцю "Автолидер", "Белинтермузыка", "Джина", "Лавка древностей", "Марытэкс", "Санкторум", "Спайдерс", "Спелпайс";

— сумесныя прадпрыемствы "Коммуникационные системы и компоненты", "Кравира" і "Прокл Энтерпрайз";

— прыватныя прадпрыемствы "Вламар", "Инполекс", прыватны прадпрымальнік Каспяровіч;

— прадпрыемствы "Аналитик-сервис", "Белорусский рынок", "Белтер", "Дедвейт", "Продсервис", "Оргест";

— аўтабаза міністэрства культуры, ПКФ "Аспар", ЗАТ "Доля", філіял нумар 1 "Интек-Секьюритиз Технобанка", кааператыў "Узбекистан".

Падобныя акцыі пераканаўча сведчаць, што далёка не ўсе беларускія прадпрымальнікі "рвачы". Можа, некаторыя з іх з цягам часу таксама атрымаюць ганаровыя званні, напрыклад, "народны прадпрымальнік" ці "народнае прадпрыемства", гэта значыць, тыя, што занепакоены не толькі пытаннямі рэнтабельнасці і прыбытку, а дбаюць і аб агульнанацыянальных каштоўнасцях. Чаму б не?

**Ігар КЛОКАЎ**

№ 1 3 — 16 студзеня 1998.



# БЕСПРЫТУЛЬНЫЯ ЮБІЛЯРЫ

Ва ўтульнай атмасферы канферэнц-залы Дома Прэсы прайшло паседжанне, прысвечанае 5-годдзю Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці. Яўген Сахута — старшыня праўлення, доктар мастацтвазнаўства, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь распавёў пра надзённыя праблемы народных творцаў і пра іхнія дасягненні. Так за некалькі гадоў сваёй актыўнай дзейнасці Саюз згуртаваў 250 майстроў з усёй Беларусі, якія прадстаўляюць усе віды традыцыйнай і сучаснай творчасці. Сёння філіялы Саюза створаныя ў Гродзенскай, Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай абласцях, ёсць яны і па рэгіёнах — у Івянцы, Вілейцы, Крупках, Маладзечне, Бабруйску, Жлобіне, Браславе, Лепелі. Толькі летась было праведзена сем буйных мастацкіх мерапрыемстваў — экспазіцыя ў памяшканні гісторыка-культурнага запаведніка "Заслаўе", выстава графічных твораў "У Вільнюсе" мастака А.Кашкоўскага ў зале Цэнтра этнаграфіі, фальклору і рамёстваў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, групавая выстава графічных твораў Ю.Алісевіча, І. Гардзіёнка, В. Гардзіёнак-Кірэевай, В.Нікішынай, Э. Пяшкова, П. Татарнікава, І Рэспубліканскае свята-конкурс саломкапляцення "Саламяны цуд" у сталічным Палацы ветэранаў і іншыя. Але, на жаль, як паведаміў Яўген Сахута, Саюз і да гэтага часу не мае свайго прытулку — свайго Дома народнай творчасці. Таму туліцца па розных кутках, увесь час неяк выкручваецца, каб прадэманстраваць гледачам дасягненні сваіх творцаў.

Пра жыццё народных майстроў таксама распавялі: Любоў Раманенка — загадчыца кафедры мастацкай і педагагічнай адукацыі Беларускага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, Наталля Грушкоўская-Багдановіч — намеснік старшыні праўлення БСМНТ, мастацтвазнаўца. Яны выказалі словы падзякі за дзяржаўныя стыпендыі, на якія штогод вылучаюцца сябры Саюза. Сёлета іх атрымалі Уладзімір Каласкоў, Сямён Саўрыцкі, Вікторыя Чырвонцава.

Паралельна з правядзеннем канферэнцыі тут жа, у канферэнц-зале, адбылося адкрыццё выставы фларыстыкі і пано Ірыны Пашкевіч. Прыгажосць прыроды ўкладзена мастачкай у мудрагелістыя ўзоры, і гэта стварае самыя розныя вобразы. Да прыкладу, працы "Купальская ночка" і "Кіпіць белай квеценню май" зацягваюць гледача ў кветкавыя далягляды і бездані. Здаецца, што кожная праца вызначаецца сваім непаўторным водарам, быццам бы няма шкла, што хавае пялёсткі прыгажосці.

Але, мне падалося, больш за ўсіх і ўсё прыцягвалі ўвагу ўдзельнікаў канферэнцыі два саламяныя пеўні. Яны стаялі побач са старшынёй Саюза майстроў народнай творчасці і нібыта сімвалізавалі перамогу народнага мастацтва над штодзённымі клопатамі.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# ШТО АДБУДЗЕЦЦА Ў СТУДЗЕНІ?

**Палац мастацтва**

**21 студзеня** адкрыецца рэспубліканская мастацкая выстава, прысвечаная маючым адбыцца ў горадзе Нагана (Японія) Алімпійскім гульням. Арганізатары выставы — Міністэрства культуры Беларусі, Беларускі Саюз мастакоў, прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь і Нацыянальны Алімпійскі камітэт. У экспазіцыі будуць прадстаўлены творы такіх вядомых мастакоў, як Георгій Паплаўскі, Уладзімір Новак, Леанід Дударэнка, Мікалай Апіёк, Георгій Лойка і іншыя.

**Галерэя "Мастацтва" Беларускага Саюза мастакоў**

З **9 да 22 студзеня** экспануецца выстава жывапісу вядомага мастака Кастуся Качана.



*К.Качан. "Снег сышоў". Палатно, алей.*

# "БУДЗЕМ ЗАЎСЁДЫ ІМКНУЦЦА ДА ПРЫГОЖАГА"

Гэта запавет Святаслава Рэрыха, які сцвярджаў Прыгажосць, Любоў і Дабро як галоўныя прынцыпы пабудовы жыцця. Менавіта пра гэта і распавядае новая выстава твораў Мікалая і Святаслава Рэрыхаў, прадстаўленых ў першакласных копіях, выкананых паводле сучасных камп'ютэрных тэхналогій.

Першая выстава Мікалая Рэрыха праходзіла ў Мінску год таму, і на працягу года яна наведала многія гарады Беларусі.

У новай экспазіцыі ў рэспубліканскім Палацы мастацтва прадстаўлены творы Рэрыхаў з музеяў ЗША, Расіі і Украіны. Экспануюцца 60 твораў Мікалая Канстанцінавіча і 30 — Святаслава Мікалаевіча. Усе копіі карцін выкананы ў натуральную велічыню на спецыяльным палатне фарбамі, што ідэальна перадаюць каларыстычную гаму арыгіналаў.

Выстава будзе працаваць да 1 лютага.

**Наш кар.**

# ФЕСТЫВАЛЬ СЯМЕЙНАЙ ТВОРЧАСЦІ ЯК АЛЬТЭРНАТЫВА КАНФЛІКТУ ПАКАЛЕННЯЎ

Старажытны Слонім у Гродзенскай вобласці (трэці па колькасці насельніцтва горад пасля абласнога цэнтра і Ліды) прымаў удзельнікаў Другога Рэспубліканскага фестывалю сямейнай творчасці. Два гады таму тут адбыўся першы фестываль, і цяпер ён атрымаў шанец стаць традыцыйным. Яго арганізатарамі выступілі Міністэрства культуры, упраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама, Слонімскі гарадскі і раённы выканкамы. Фестываль прайшоў у межах суперфестывалю "Беларусь — мая песня", які пачаўся ў Лідзе і аб'ядноўвае ў сабе шэраг фестываляў народнай творчасці.

Што такое сям'я? "Ячэйка грамадства", па меркаванні марксістаў, "матэрыялізаваны андрагін", па меркаванні тэосафаў, адзіная плоць, паводле рэлігіі, ці аснова пабудовы свету, паводле філасофскіх канцэпцый? Пэўна, усё разам узятае. Таму гэты фестываль акрамя звычайнага прызначэння такіх форумаў — даць магчымасць творчым людзям самавыявіцца і падарыць свята мясцовым жыхарам, меў і прынцыпова новае значэнне. Фестываль паказаў, што працоўныя дынастыі ёсць і ў супрацоўнікаў галіны культуры, што канфлікты паміж пакаленнямі могуць вырашацца праз сумесную творчасць, што народная традыцыя мае пераемнікаў і, адпаведна, гарантыю свайго існавання ў будучыні. Паназіраўшы за ўдзельнікамі фестывалю, пачынаеш спадзявацца, што па іх прыкладу яшчэ не адна дзяўчынка больш уважліва прыслухаецца да спеваў бабулькі, а дзед дастане з гарышча гармонік, каб навучыць унука музыцы сваёй маладосці.

Журы фестывалю было пастаўлена ў цяжкія ўмовы. Па якіх прынцыпах вызначаць прызёраў фестывалю? Хто больш годны? Бо ўдзельнічалі і музычныя, і танцавальныя калектывы, прадстаўнікі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і нават такога унікальнага віду творчасці, як... пякарская скульптура. А розніца ва ўзросце ўдзельнікаў фестывалю, пэўна, складае больш за 80 гадоў. Таму былі створаны розныя намінацыі, па якіх вызначаліся прызёры, але ўсё роўна спрэчкі ў журы працягваліся ці не да раніцы.

У праграме фестывалю былі традыцыйныя раздзелы: конкурснае праслухоўванне, творчая лабараторыя для кіраўнікоў калектываў, гала-канцэрт. Падчас лабараторыі-майстэрні сямейнай творчасці супрацоўнік Міністэрства культуры Алег Скарына спрабаваў пазначыць новы жанр у правядзенні такіх фестываляў — нешта кшталту інтэрв'ю з удзельнікамі калектываў з элементамі шоу. Разам з сем'ямі Кавалёвых з мястэчка Сянно Віцебскай вобласці і сям'ёй Парфенчыкаў, што з Бердаўкі Гродзенскай вобласці, шукаліся шляхі вопыту і прыкладу пераемнасці сямейнай культуры, а таксама універсальныя рэцэпты сямейнага шчасця. Здаецца, атрымалася гатовая тэлепраграма, будзем спадзявацца, што гэта традыцыя будзе працягвацца.

Арганічна ў праграму фестывалю былі ўключаны наведванні службаў у Жыровіцкім манастыры і касцёле святога Андрэя.

Здаецца, усе сем'і атрымалі памятныя падарункі. Сярод прызоў была і электраапаратура, і проста грошы. Адна сям'я нават атрымала лядоўню, за якой, праўда, шчаслíўцам давядзецца ехаць у Мінск. Сціплымі спонсарамі фестывалю можна назваць і прэсу. Так, сям'я народных майстроў Гатальскіх з Мінска атрымала ў якасці прыза гадавую падпіску на часопіс "Беларусь". Спецыяльным дыпломам і падпіскай на штотыднёвік "Культура" быў узнагароджаны Міхаіл Іванавіч Рылко — калекцыянер, які сабраў сотні антыкварных прадметаў. Яго калекцыя аднаўляе традыцыйны быт беларускай сям'і. Будзем спадзявацца, што ў хуткім часе на аснове яго калекцыі будзе створаны сямейны музей.

Фестываль, які стаў, па словах пісьменніка Уладзіміра Ліпскага, сапраўдным святам душы, на маю думку, павінен стаць традыцыйным для будучых гледачоў і ўдзельнікаў.

**Алесь ТУРОВІЧ,**
**спецыяльна для "Культуры".**

# ПІСЬМЕННІК ПЕРАД АБЛІЧЧАМ СУСВЕТУ

Мінулы год стаўся вельмі адметным для галоўнага рэдактара часопіса "Полымя", пісьменніка Сяргея Законнікава. За чарнобыльскія паэмы, "якія ўзнімаюць драматычныя праблемы сучаснасці", ён быў узнагароджаны міжнароднай польскай прэміяй імя Вітольда Хулевіча (гэты мужны пісьменнік быў расстраляны фашыстамі ў 1941 г., і ягонае імя стала сімвалам мужнасці Творцы). Напрыканцы года за цыкл вершаў "Жыві, Украіна" беларускаму паэту была прысуджана міжнародная ўкраінская прэмія імя Грыгорыя Скаварады.

Апроч прэзентацыі сваёй новай кнігі ў Франкфурце-на-Майне Сяргей Законнікаў прадстаўляў нашу краіну на Сусветнай канферэнцыі пісьменнікаў, гісторыкаў і філосафаў, якая адбылася сёлета ў Вашынгтоне.

*Газета "Культура" віншуе Сяргея Іванавіча і зычыць яму ў новым годзе большага міжнароднага прызнання і, канешне ж, новых цудоўных вершаў!*

# ЛЭДЗІ МАКБЕТ З БЕЛАРУСКАЙ ОПЕРЫ

У нядзелю, 4 студзеня, на тэлеканале "Культура" прайшла трансляцыя оперы Дж.Вердзі "Макбет" з сусветнавядомага міланскага тэатра "Ла Скала". Спектакль, цікавы сам па сабе, для беларускай тэлеаўдыторыі быў прывабны яшчэ і тым, што адну з вядучых партый у ім выконвала Марыя Гулегіна, якая некалькі гадоў таму была салісткай нашай Нацыянальнай оперы.

Вядомы спявак Зураб Саткілава, каментуючы "маналітны, эмацыянальны, энергічны спектакль", у першую чаргу "патрыятычна" адзначыў выдатнае выканальніцкае майстэрства "рускай спявачкі" Гулегінай. "Яна надзвычай добрая для гэтай оперы! Яна — велічная, яна — прыгожая, яна — па-боску чароўная!" Усе гэтыя эпітэты цалкам справядлівыя. І я добра разумею гонар за "нашых", "савецкіх", якімі прагучаў у словах майстра сцэны. Але для беларусаў армянка Гулегіна, што жыве цяпер у Германіі, яшчэ больш "наша". Яна працавала на нашай сцэне з 1984 года, адразу па заканчэнні Адэскай кансерваторыі, — і да пачатку 90-га года. Гулегіна (Мурадзян) вучылася ў вядомага прафесара Іванова (у яго потым займаўся і Алег Мельнікаў, сёння — вядучы бас нашай оперы). У нашым тэатры выконвала большасць вядучых партый, яе драматычная каларатура — не адразу, але даволі хутка — была вызначана спецыялістамі як "сапрана боскай прыгажосці". Пачынаючы з 1984 года Марыя Гулегіна штогод пасляхова ўдзельнічала ў міжнародных конкурсах: снежань 1984 — імя Глінкі ў Ерэване — першая прэмія, наступным годам — трэцяя прэмія ў Рыо-дэ-Жанейра, потым — таксама трэцяя на конкурсе імя Чайкоўскага... Яе праслухалі для ўдзелу ў спектаклях у "Ла Скала", і неўзабаве яна дэбютавала там у "Балі-маскарадзе" (дарэчы, з Лучана Паварoці). Потым быў "Дон Карлас" там жа, выступленні ў лонданскім Ковент-Гардэне, у Метраполітэн-опера, у оперы Сан-Францыска. Але гэта ўжо, калі яна пераехала ў Гамбург. Яна казала, што Гамбург нагадвае ёй адначасова і Адэсу, і Мінск. Цяпер яна жыве ў Люксембургу, сярод лясоў, таксама падобных да беларускіх. У вялікім інтэрв'ю, што з'явілася летась у мартаўскім нумары "The European Magazine", напярэдадні яе прэм'еры ў парыжскай Апера дэ Бастыль у "Набукка", Гулегіна з вялікай цеплынёй успамінае былога галоўнага дырыжора нашага тэатра Яраслава Вашчака, якому "абавязана ўсім".



*Марыя Гулегіна — Лэдзі Макбет у спектаклі тэатра "Арэна дзі Верона".*

Сёння яна адчувае сябе 25-гадовай, выглядае выдатна (дарэчы, у дзяцінстве яна марыла быць балерынай і трохі займалася танцам) і па-ранейшаму вельмі шмат працуе. Знаўцаў найбольш парадаваў урывак рэпетыцыі, што быў паказаны ў адным з антрактаў прыгаданай трансляцыі "Макбета". Гулегіна цярпліва працавала з Рыкарда Муці, музычным кіраўніком пастаноўкі, над кожным інтанацыйным нюансам. (Таксама як і яе партнёр, барытон Рэната Брузон, які выканаў партыю Макбета ўжо больш за 400 разоў!)

Сёння Гулегіна марыць аб партыі Віялеты у "Травіяце". Можа, яе завабіць у некалі родныя сцены наша новая пастаноўка гэтай оперы?

**Ігар КЛОКАЎ**

# ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

**Напярэдадні 12-га з'езда Саюза кампазітараў Беларусі вядомыя музычныя крытыкі разважаюць пра стан беларускай музычнай культуры на сённяшні дзень.**



## ЗАМАЛЁЎКА З НАТУРЫ



Калі назіраеш жыццё нашага кампазітарскага саюза знутры, робіцца неяк сумна. Здаецца, што ў апошнія гады ўся дзейнасць праўлення галоўным чынам засяродзілася на размеркаванні ганаровых званняў ды ўзнагарод. То Міністэрства культуры параіць сваю кандыдатуру, то нейкая ваенная ўстанова дашле сваю рэкамендацыю. Вядома ж, трэба "рэагаваць". А між тым творчыя праблемы неяк ціха адышлі на другі план. І не дзіўна. Эканамічныя абставіны, як кажуць, не спрыяюць. Гэта адчувае і кожны з нас. Вось зусім нядаўна мы з сяброўкай, вядомым кампазітарам, доўга "аблізваліся" перад зводнай афішай "Беларускай музычнай восені": колькі цікавага і як многа хочацца паслухаць. Але ж на ўсё квіткоў не накупішся. Заробкі дацэнта Беларускай акадэміі музыкі на гэта не разлічаны. Вось і трапляеш у стан Бурыданава асла... А можа, чым горай, тым лепей? Затое ж, калі вырвешся з багны абыдзёншчыны, як востра, з якім душэўным уздымам адчуваеш у мастацтве Сапраўднае! Якая пранізлівая эмацыйная ўзрушанасць падчас прэм'еры "Запрашэння на пакаранне смерцю" Віктара Кузняцова ці "Дня на пачатку лістапада" Галіны Гарэлавай у канцэрце "Класік-Авангарда"! Якое пачуццё нацыянальнай годнасці агортвае цябе на спектаклях оперы Сяргея Картэса "Візіт дамы" і балета Андрэя Мдзівані "Страсці" ў нашым Вялікім тэатры, калі праз талент сваіх мастакоў дачыняешся да вечных каштоўнасцяў! Як зацікаўлена, з хваляваннем слухаюць жывую дыскусію-абмеркаванне твораў у музычным клубе Бярынскага, дзе з нагоды Міжнароднага музычнага фестывалю ў Маскве выконваюць твор Гарэлавай! Але гонар за поспех яе санаты атручаны зайздрасцю: ці прыйдзе час, калі і ў нашым культурным асяродку ўзнікнуць такія клубы, і людзі спецыяльна будуць збірацца, каб пачуць навінкі беларускай музыкі, каб шчыра, зацікаўлена і — о, цуд! — добразычліва абмеркаваць пачутае?.. Але вось запрашаюць у Саюз на чарговы сход. Відаць, зноў будзем нешта дзяліць...

**Радаслава АЛАДАВА**

## НАМАЛЮЕМ НОТКАМ КРЫЛЦЫ?



Аб праблемах не прынята гаварыць паэтычна. Але ж калі яны тычацца Беларускага саюза кампазітараў, дык, можа, паспрабуем? Тым больш, што знешне памяшканне БСК апошнім часам нагадвае мастацкую выставу: замест сцен невядомага колеру з усіх бакоў на нас глядзяць карціны, што мастакі прапануюць на продаж.

Пры такім "дызайне" і кампазітары сталі весці сябе адпаведна: нехта натхняецца жывапісам, нехта — лічыць грошы мастакоў, нехта моцна выказваецца наконт гэтага "мазюкання", нехта пачынае маляваць сам.

Ну дык як, памалюем? Тады хапайце хутчэй алоўкі і малюйце — зярнятка. Калі яго не зарываць у зямлю, а падарыць каму-небудзь з музыкаў, атрымаецца — нотка. Яна адразу "прарасце" вусікам-антэнай — нібы для кантактаў з навакольным асяроддзем. А каб нотка паляцела ў свет, ёй патрэбны — крылцы. Ці — правады-правадочкі, што звяжуць яе з такімі ж ноткамі-сяброўкамі.

Дык вось, сам па сабе Саюз кампазітараў мае проста ноткі-зярняткі, якія аўтары ўжо прызвычаіліся "зарываць" у стол. З яго шчылін так і тырчаць вусікі-антэны, а наконт крылцаў... Бач, чаго захацелі!

У мяне часам складваецца ўражанне, што каб тыя крылцы, нарэшце, з'явіліся, кампазітарам трэба не проста памерці, а яшчэ і пачакаць стагоддзя два — чатыры. Вось тады іх творы будуць па-сапраўднаму заўважаны, пераапрацаваны на сучасны лад — і вернуты ў выканальніцкую практыку. Дый пры ўмове, што захаваюцца даследчыкі кшталту Вольгі Дадзіёмавай і арганізатары з апантанасцю Віктара Скорабагатава. Бо калі "Полацкі сшытак" ужо лічыцца сапраўдным "хітом", дык сучасным творам той "хітаватасці" яшчэ чакаць ды чакаць.

Не, на самой справе ўсё не так і дрэнна. Практычна кожны больш-менш значны твор гучыць хаця б аднойчы: ці на канцэрце, ці пасля поўначы ў радыёэфіры. Аўтар беражліва захоўвае касету з запісам і дае яе паслухаць родным і блізкім. Дарэчы, выпуск касет наладжаны і ў самім Саюзе кампазітараў, так што зараз ёсць магчымасць нават падарыць сваю касету сябрам.

А між іншым, знаёмства з лепшымі сучаснымі творамі заўсёды выклікае ў публікі калі не ажыятаж, дык шчырае здзіўленне: маўляў, чаму ж мы не ведалі гэтай музыкі раней? Ніколі не забуду II Нацыянальны фестываль у Нясвіжы, адкрыццём якога і для публікі, і для шматлікай прэсы сталі не столькі старадаўнія беларускія творы, колькі — сучасныя. Затое я нешта ніяк не прыпомню, каб падобным адкрыццём сталі канцэрты з'езда Саюза кампазітараў, бо ў фарміраванні іх праграм заўсёды прымешваецца дзёгаць аўтарскіх амбіцый: разам з лепшымі творамі мы паказваем — ... розныя, дый часу на іх рэпетыцыі, як звычайна, не застаецца.

Вось-вось, наконт рэпетыцый. З-за таго, што беларускія творы гучаць практычна аднойчы, да таго ж часта далёка не ў ідэальнай інтэрпрэтацыі, уцяміць іх багацце можа хіба што ўніклівы музыказнаўца, што правядзе не адзін вечар над партытурай — калі яшчэ знойдзе аргументы "выклянчыць" яе ў аўтара. Але ж каму ён потым будзе даводзіць, што сама партытура — досыць годная, проста выкананне было, шчыра кажучы, не вельмі?..

Выступаючы перад самымі рознымі аўдыторыямі з расповедам пра сучасную беларускую музыку, я чую кожны раз адно і тое ж: "Можна перапісаць Вашыя касеты? Бо раней мы думалі, што беларуская музыка — гэта такое..."

Дык давайце думаць, што беларуская музыка — ну, хаця б... розная. І давайце шукаць сярод яе тыя творы, якім бы хацелася дамаляваць крылцы. І, дарэчы, давайце іх маляваць! Зноў і зноў! Каб не было так, што, напрыклад, спісы рэкамендаваных беларускіх твораў у апошніх праграмах па музыцы для сярэдніх школ складалі тыя знаўцы, якіх я не бачыла ні на водным канцэрце беларускай музыкі апошняга дваццацігоддзя. Ды што там звычайныя школьнікі, калі нават некаторыя студэнты Акадэміі бываюць шчыра ўпэўнены, што "маладыя парасткі" беларускай музыкі — гэта Дзмітрый Смольскі і Сяргей Картэс.

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

## ІНДЫКАТАР СТАЛАСЦІ



Падводзячы пэўныя вынікі мінулага года, гаворачы аб яго набытках, варта, як мне падаецца, звярнуць увагу і на тыя падзеі, якія звязаны з працэсам спасціжэння нашага музычнага мінулага. Мінулага, што з'яўляецца не толькі падмуркам сучаснасці, але і яе рэчаіснасцю. Бо адносіны да культурнай (у тым ліку і музычна-культурнай) спадчыны, глыбіня пранікнення ў яе сутнасць, навуковага і мастацкага асваення — таксама індыкатар сталасці і ўзроўню развіцця сучаснай музычна-культурнай фармацыі.

Як падаецца, сёлета мы сталі сведкамі надзвычай важных зрухаў у развіцці нашай музычна-гістарычнай свядомасці.

Па-першае, відавочна пашырэнне сферы навуковых доследаў, што ахапіла вельмі розныя праблемы як па іх геаграфічна-храналагічнай "сістэме каардынат", так і па змястоўна-канцэптуальным рашэнні: ад архаічных форм, звязаных з беларускай музычнай гімнаграфіяй, да з'яў эпохі рамантызму (у прыватнасці, творчасць Станіслава Манюшкі), ад даляглядаў творчасці кампазітараў, што жылі і працавалі на Беларусі (Мацей Радзівіл, Міхал Агінскі, Ян Голанд), да музычных помнікаў, якія паўсталі па-за межамі нашага краю ("Фауст" Гётэ — Радзівіла); ад крыніцазнаўчых, звязаных з канкрэтнымі рэаліямі, да метадалагічных, праблемных, якія праліваюць святло на гістарычны шлях айчыннай музычнай культуры наогул.

Па-другое, заўважны рост і "прыток" у музычную беларусістыку новых творчых сіл. Маю на ўвазе і першую абарону кандыдацкай дысертацыі ў Беларускай акадэміі музыкі, выкананай Т.Ліхач пад кіраўніцтвам І.Назінай менавіта па музычна-гістарычнай праблематыцы, і выступленні нашых студэнтаў на навуковых канферэнцыях, іх змястоўныя публікацыі, іх жаданне працаваць у галіне музычна-гістарычнай навукі.

Па-трэцяе, сёлета атрымала працяг і вельмі важная тэндэнцыя далучэння да працы па вывучэнні і распаўсюджанні, папулярызацыі набыткаў музычнай даўніны розных арганізацый і ўстаноў. І гэта не толькі "Беларуская капэла", для якой такая дзейнасць з'яўляецца сэнсам і мэтай існавання, але і Беларуская дзяржаўная філармонія, на базе якой быў праведзены Сёмы фестываль "Адраджэнне Беларускай капэлы". Гэта таксама і Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь, што запрасіў нас на Другі фестываль камернай музыкі ў Нясвіжы, гэта і наша Тэлерадыёкампанія, якая працягвае цыклы перадач, прысвечаныя музычнай мінуўшчыне, і Саюз кампазітараў, члены якога — заўсёдныя ўдзельнікі фестываляў і канцэртаў. Як і раней — гэта Беларуская акадэмія музыкі, дзе распрацавана і дзейнічае праграма "Вяртанне", падрыхтаваны да выдання клавір оперы "Агатка" і зроблена шмат іншага ў музычна-гістарычнай галіне, і Акадэмія навук, Беларускі інстытут праблем культуры, якія таксама паспрыялі музычнаму Адраджэнню... Але самае прыемнае, што бліскуча заявіла аб сабе таленавітая моладзь на канцэрце з твораў Яна Голанда.

Усцешвае і тое, што старадаўняя беларуская музыка сёлета гучала не толькі ў канцэртных залах Мінска, але і Віцебска і Гародні, Гомеля і Нясвіжа, у іншых гарадах і мястэчках Беларусі, а таксама і па-за яе межамі.

І, нарэшце, уражвае разнастайнасць форм асваення нашай музычнай спадчыны: ад пошукавай, навукова-аналітычнай, навуковай работы акадэмічнага накірунку да педагагічнай і канцэртнай дзейнасці па ўвасабленні гукавога "тэксту" музычнай мінуўшчыны.

Думаецца, менавіта дзякуючы плённаму спалучэнню гэтых плыняў стала магчымым не толькі тэарэтычнае, але і мастацкае асэнсаванне і асваенне здабыткаў даўніх часоў.

Відавочна, што зараз перад намі паўстала больш чым калі-небудзь пытанняў, праблем новага кшталту і ўзроўню, і можна спадзявацца, што рух насустрач ісціне, насустрач сабе і сваёй гісторыі будзе плённым і няспынным.

Бо сэнс яго — у набыцці, захаванні і пашырэнні ведаў аб мінулым, што нясе надзею на незабыўнасць сучаснага і працяг яго ў будучыні.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**

## КУДЫ ПЕРАМЯСЦІЛІСЯ АКЦЭНТЫ

Калі даводзіцца падсумоўваць вынікі пэўнай працы, пэўнага перыяду жыцця, то на першае месца мы звычайна ставім станоўчыя дасягненні, а потым пачынаем разважаць аб тым, што зрабіць не ўдалося і што яшчэ можна паспець зрабіць, каб працэс меў аптымістычнае завяршэнне. Пытанне, на якім я хачу засяродзіцца ў сувязі з маючым адбыцца з'ездам Саюза кампазітараў Беларусі, здаецца, такога аптымістычнага адказу мець не будзе. Бо за папярэднія 5 гадоў назіралася ўстойлівая тэндэнцыя ўвогуле не звяртаць на яго ўвагі. Я маю на ўвазе прапаганду акадэмічнай беларускай музыкі ў электронных сродках масавай інфармацыі (як цяпер прынята называць радыё і ТБ). І справа не ў тым, што быццам бы на нашых кампазітараў, якія пішуць оперы, балеты, сімфоніі, квартэты і г.д., гэтыя "сродкі" звяртаюць мала ўвагі. Не. Адзначаюцца юбілеі, транслююцца фестывальныя і аўтарскія канцэрты. Але працэс гэты не мае сістэмнага характару. Вырасла цэлае пакаленне слухачоў, якія не ведаюць, што ў гісторыі беларускай музычнай культуры ёсць свае карыфеі, ёсць класічныя ўзоры ў кожным жанры, ёсць свая багатая спадчына. Могуць запярэчыць: а гэтае пакаленне і не павінна ведаць тое, што з самага пачатку адрасавана не такому ўжо шырокаму колу "спажыўцоў" музыкі. Але калі мы гаворым пра культуру краіны, то хаця б імёны тых, хто на працягу дзесяцігоддзяў ствараў ёй музычную славу, ведаць неабходна. У свой час на радыё і ТБ былі спецыяльныя праграмы, якія досыць рэгулярна знаёмілі слухачоў са спадчынай і дасягненнямі беларускай акадэмічнай музыкі. З цягам часу акцэнт у музычнай прапагандзе змясціўся на жанры забаўляльныя, а прапаганда сур'ёзных жанраў стала справай рук ці саміх творцаў, ці вельмі абмежаванага кола крытыкаў-энтузіястаў. Той, ад каго залежыць сёння "жыццё" беларускай акадэмічнай музыкі на радыё і ТБ, чамусьці лічыць, што гэтая музыка павінна гучаць у эфіры пасля апоўначы. А ўвесь астатні эфірны час слухачоў і гледачоў прымушаюць есці толькі "салодкае" і "зразумелае", тое, што не патрабуе дадатковых намаганняў успрыняцця. У выніку публіка добра ведае беларускіх эстрадных куміраў, не кажучы ўжо пра расійскую эстраду, а вось аб тым, што побач існуе зусім іншае жыццё і што ёсць свае знакавыя фігуры ў музыцы больш складанай, нават і не здагадваецца. Думаю, тут трэба звярнуцца да крытыкаў-прафесіяналаў, каб яны агульнымі намаганнямі зрабілі "складанае" агульнадаступным для шырокага слухача, каб яны часцей атрымлівалі слова на радыё і ТБ. Саюз кампазітараў, са свайго боку, мог бы пайсці на стварэнне нейкага сумеснага праекта з радыё і ТБ, які б даў магчымасць "загучаць" беларускай акадэмічнай музыцы ў эфіры сістэматычна не толькі пасля апоўначы.

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**

## ХРАМ, ЯКІ БУДУЕ САМ СЯБЕ...

Сёння немагчыма не заўважаць ступені маштабнасці той сферы, якая прадстаўлена ў беларускай музычнай культуры сучаснасці музыкай і творчасцю вуснай традыцыі. І не таму толькі, што этнамузыкалагічныя даследаванні выдатна раскрылі яе глыбіннасць і дзейнасць, яе прыналежнасць да тыпу "жывых" (такая з'ява нават для славянскага культурнага арэала напярэдадні трэцяга тысячагоддзя — унікальная). І не таму таксама, што беларускія музыказнаўцы — гісторыкі, тэарэтыкі, крытыкі — паказалі ў сваіх працах плённасць тых токаў, якімі традыцыйная музычная культура прасякае прастору кампазітарскай і іншай беларускай музыкі ў яе сучасным быцці. Ёсць яшчэ адно важнае, што адкрываецца, калі аб'ектам доследу і практычнага назірання з'яўляецца музычная культура вуснай (беспісьмовай) формы існавання. Жыццё апошняй у часе, як вядома, дзякуючы міжпакаленнай трансмісіі яе набыткаў — інтанацыйнага вопыту, гукаідэй і ідэалаў, цалкам залежыць менавіта ад руху-перадачы гэтых каштоўнасцей і абумоўлена тым механізмам, які завецца традыцыяй. Дык вось, пры назіранні за такой з'явай, дзе жыццё мастацка-творчага і ўласна музычнага рэчыва вядзе свой адлік эпохамі і пакаленнямі, асабліва востра адчуваецца, што музычная культура і сёння, і заўсёды ёсць той Храм, які будуе сам сябе. Культура **сама** стварае, **творыць** сябе. І працэс гэты мае як сваю, іманентна ўласцівую яму пасіянарнасць, так і свой рытм, свой рух, які мала залежны ад так званага вонкавага. Не выпадкова найбольш удумлівыя спробы эстэтыка-філасофскіх азначэнняў паняцця "мастацкая культура" на першае месца ставяць менавіта "**здольнасць** грамадства ствараць, адэкватна ўспрымаць і правільна ацэньваць мастацтва **ўсіх** форм, відаў і жанраў". І толькі потым, на другое месца "сукупнасць створаных мастацкіх каштоўнасцей, іх інтэрпрэтацый і ацэнак". Інакш кажучы, музычная культура сёння — гэта **мы, нашы здольнасці**. І традыцыйная музычная культура, яе лёс — гэта таксама мы і нашы здольнасці ўспрымаць набыткі яе інтанацыйнага вопыту, яго зместу і інтэнцый. І вось тут ужо кожны, хто імкнецца альбо быць спрычыненым гэтаму скарбу, альбо абмінаць яго, не звяртаючы ўвагі, павінен адказаць перад будучай КУЛЬТУРАЙ, ці можа ён увайсці ў Храм, ці застанецца ў яго прытворы-цвінтары. А мабыць, і за агароджай.

**Тамара ЯКІМЕНКА, прафесар кафедры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, член Беларускага саюза кампазітараў.**

***Сёння мы пачынаем цыкл публікацый, якія задумваліся некалі яшчэ пры стварэнні газеты "Культура", але не былі ажыццёўлены з той прычыны, што не знайшоўся даследчык, які б узяўся за гэтую тэму. Цяпер такі даследчык ёсць. Да самых апошніх часоў адной з найменей вывучаных старонак нашай гісторыі з'яўляецца самая, бадай, паэтычная і светлая — цудоўныя абразы Божай Маці на Беларусі.***

***Можа, менавіта спаласаваная маланкамі нягод і выпрабаванняў зямля робіцца бліжэйшаю да неба? І тады чалавек усёй сілай душы шукае святла і духоўнай дапамогі — прынамсі, магчыма таму на невялікай тэрыторыі ўсяго за некалькі стагоддзяў хрысціянства (а хрышчэнне, як мы ведаем, праводзілі яшчэ ў XIV стагоддзі на сённяшняй Гродзеншчыне Вітаўт і Ягайла) было яўлена каля 500 цудатворных абразоў Божай Маці.***

***І з кожным з іх звязаны цэлы пласт падзей, лёсаў, спадзяванняў, духоўных пошукаў.***

***"Паводле святаайцоўскага вучэння, Божая Маці, Прыснадзева Марыя ёсць найвышэйшая істота са створаных разумных істот, непараўнальна вышэйшая за саміх высокіх Ангелаў, Херувімаў, Серафімаў, непараўнальна вышэйшая за ўсіх святых падзвіжнікаў. Яна — Уладарніца і Царыца ўсяго створанага, зямнога і нябеснага. Яна — Прыснадзева, гэта значыць: да нараджэння ёю Богачалавека — Дзева, у нараджэнні Яго — Дзева і па нараджэнні Яго — Дзева. Нездарма імя Марыя дадзена Ёй па загаду Божаю і значыць Панна.***

***Пацверджанне таму і старажытнейшая з царкоўных спеваў "Канцыянала Пржэворшычка" (1435) песня пра Багародзіцу, аўтарства якой прыпісвалася чэшскаму святому Войцеху, хрысціянскаму асветніку славянскага Памор'я. З часоў Баляслава Мужнага да эпохі падзелаў гэтая песня, напісаная на кангламераце старачэшскай і старабеларускай моў, была дзяржаўным гімнам Рэчы Паспалітай".***

***Я прывяла гэтую доўгую цытату з будучай кнігі Алены Яскевіч, маладой даследчыцы, якая ажыццявіла, на маю думку, сапраўдны духоўны подзвіг — сабрала ў адно разрозненыя звесткі пра гэтыя цудатворныя абразы на Беларусі, каб паказаць нам самім, што мы маем. А галоўнае — яшчэ раз нагадаць, што мы не пакінутыя вышэйшымі нябеснымі сіламі, што мы не страчаныя для будучыні.***

***Вольга ІПАТАВА***



*Дзед — імператарскі садоўнік Сялюн Рыгор Іванавіч з Мядзельшчыны, бабуля — Ганэта Анупрэеўна з роду Падабыцькаў з дачкой Нюрай, Санкт-Пецярбург, 1914 г.*

**Праз вякі і легенды**

# КУПЯЦІЦКАЯ ІКОНА БОЖАЙ МАЦІ

Купяціцкая цудадзейная ікона Багародзіцы належыць да вельмі старажытнага іканаграфічнага тыпу, у якім сумяшчаюцца рысы Адзігітрыі з сюжэтным фонам і фактураю Распяцця. Ікона была яўлена ў 1182 г. на р.Ясельдзе, што на Піншчыне. Дзяўчына Ганна пасвіла статак, нечаканa яна заўважыла незвычайнае святло. На дрэве вісеў крыж з выявай на ім абліччa Божай Маці. Дзяўчына аднесла крыж дадому, схавала святыню і вярнулася да статка. Але на тым жа месцы яна пабачыла ізноў крыж. Ганна павесіла крыж на шыю. Увечары, прыгнаўшы статак, яна хацела паказаць бацьку крыж, але святыні не было на ёй. Не знайшла крыжа дзяўчына і ў сваім схованцы. Тады яны разам з бацькам пайшлі шукаць крыж у лесе. І сапраўды, крыж ізноў вісеў на дрэве. Яны аднеслі крыж дадому, але на другі дзень святыня знікла — ікона ўладна патрабавала праслаўлення. Бацька і дачка абвясцілі аб гэтым цудзе жыхарам вёскі. На ўказаным месцы вяскоўцы і пабачылі цудадзейны крыж у незвычайным ззянні. Жыхары вёскі неўзабаве пабудавалі на месцы з'яўлення цудадзейнага крыжа драўляную царкву, туды ж перанеслі з урачыстым малебнам святыню. У час варожых нашэсцяў крыж бараніў вяскоўцаў.



Аднойчы татары спалілі Купяцкую царкву, ды цудадзейная ікона-крыжы ляжала ў попеле непашкоджанай. Падарожнага Іаакіма ўразіла святло, што ішло з зямлі. Разглядзеўшыся, ён пабачыў сярод попелу крыж. Пілігрым паведаміў пра знаходку жыхарам вёскі, яны, узрадаваныя, са святаром прызналі сваю былую святыню, якую агонь зусім не пашкодзіў. У прарочым сне Багародзіца загадала пілігрыму Іаакіму аберагаць Яе ікону.

У адбудаваным нанова храме падарожны Іаакім стаў працаваць панамаром (дзячком).

Летапісы данеслі да нас сведчанні пра цуды ад Купяціцкай іконы-крыжа.

Адна княгіня жадала, не пытаючы блаславення, быць пахаванай пры царкве непасрэдна каля самой іконы-крыжа. Але праз панамара Іаакіма Багародзіца абвясціла, што Яе воля іншая, і астанкі былі вынесены Святой Сілай з таго месца. Пасля паўторнага пахавання Маці Божая папярэдзіла, што калі да Яе Волі не прыслухаюцца, то селішча і край будуць пазбаўлены Яе святога заступніцтва.

Неяк злодзей надумаў абрабаваць царкву, а панамара забіць. Але як толькі ён памысліў гэта, то страціў моц у руках. Пасля пакаяннага малення яго рукі аджылі. Але папярэджанне, што за паўторнае абрабаванне Царквы ён будзе пакараны, яго не спалохала. Аднак, калі праз тры гады яго злавілі ў якойсьці малдоўскай царкве, раз'юшаныя вернікі яго спалілі.

Адзін святар Веніямін вырашыў паднавіць ікону самачынна, скабліў яе і падмалёўваў. У час падарожжа з Піншчыны на Падляшша Веніямін выбавіў ад смерці аднаго чалавека, але па Промысле Божым выратаваны гэтак жа знявечыў твар свайго дабрадзея, як Веніямін — Аблічча іконы пры няўдачнай рэстаўрацыі яе.

Выбаўляла Купяціцкая святыня селішча сваё і ад маравой язвы. У 1629 г. пры Купяціцкай царкве быў заснаваны мужчынскі манастыр. Манастырскаму пекару Грыгорыю за ягонае бяссрэбраніцтва Прасвятая паведаміла дакладны час адыходу, каб ён змог спавядацца і прычасціцца Святых Хрыстовых Тайнаў.

Неадноойчы атрымлівалі ацаленні ад Купяціцкай святыні беснаватыя, хворыя на галаву, ногі, не адно здаровае дзіцятка абавязана ёй сваім з'яўленнем на Свет Божы.

Аднойчы на свята Дабравешчання, калі рамантавалі царкву, юнак Павел з высокага рыштавання ўпаў на цвік, прабіў лоб. Але пасля малення перад іконаю на другі дзень хлопец ажыў і пачаў бачыць, гаварыць, а глыбокая рана сама зацягнулася.

Купяціцкая святыня сталася і мудраю выхавацелькай, неаднойчы выпраўляла норавы людзей свайго краю. Прыхаджанін храма Павел Дзеўлатоўскі на майскае свята Міколы Угодніка, абураны выкрыццём грахоў мясцовага люду, рушыў з царквы. Неяк вечарам ехаў ён п'яны і каля хаты ўпаў з воза і атрымаў моцны вывіх рукі. Пасля шчырага раскаяння атрымаў Павел аздараўленне, пешшу прыйшоў да манастыра і падараваў Купяціцкай святыні васковую руку як сведчанне цудадзейнага ацалення.

У 1656 г. цудадзейная ікона была перанесена ў Кіеўскі Сафійскі сабор у паўднёвы прыдзел апостала Андрэя. Багамольцы вельмі ўшаноўваюць гэтую святыню за дапамогу і абарону. Святы Афанасій Берасцейскі падараваў копію гэтай цудадзейнай іконы (як нагадванне пра беларускія карані) першаму цару дынастыі Раманавых Міхаілу Фёдаравічу.

Цудадзейная ікона Божай Маці Купяціцкай двухбаковая. З аднаго боку Царыца Нябесная паказана ва ўвесь рост і трымае на левай руцэ Дзіцятка Хрыста. Другі бок — Распяцце. Адзігітрыя Купяціцкая спалучыла ў сабе рысы ікон Прачыстай "Млекакормячай", "Салодкае цалаванне" і Смаленскай Адзігітрыі.

Цудадзейная ікона медзяная і, адпаведна канону, мае аднолькавую шырыню і даўжыню.

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК**

# ПАД ПЯЧАЦЦЮ КАЛЯДНАЙ ПОЎНІ

*Калядны дзень кароткі.*
*І — поўня — як пячаць.*
*НА ФОТАЗДЫМКАХ ПРОДКІ*
*НАПРУЖАНА МАЎЧАЦЬ.*
*Кароткі век юдолі?*
*Не скажуць з-пад зямлі.*
*Жылі сваёй гадоўляй,*
*не калядой жылі.*
*...Сутонне агарнула*
*апошні продкаў лік.*
*І слізгануў са стула*
*нябёсаў сіні блік.*
*Завечарэла каша:*
*наўкруг — усё глушэй...*
*МНЕ ТОЛЬКІ РАНАК СКАЖА,*
*ці будзе дзень даўжэй.*
*Завісне самародкам*
*у поўні на плячы,*
*калі — услед за продкам —*
*нашчадак прамаўчыць;*
*калі не акруглюся*
*ў статутную пячаць,*
*калі не акрылюся*
*мой радавод злучаць*
*з каляднай Беларусяй,*
*дзе ўсе вякі — гучаць!*



*Бацька — хутаранін Панізьнік Сцяпан Дзмітравіч, маці — Ганна Рыгораўна (Нюра) з дачкой Лізай, Ганэта Анупрэеўна, Ніна (сястра, жыве зараз у Юрмале). Фота 1939 г., гміна Лявонпаль Браслаўскага павета Віленскага ваяводства.*

# "ПАРАЎНАЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА"

## (Помнікі і скульптура)

**З таго часу, як я тут, а гэта хутка ўжо год, мне хацелася пра гэта напісаць (захацелася!) — параўнаць. Памятаеце? "Два светы — дзве культуры". (Мне гэта цікава яшчэ і таму, што, мабыць, так і не здолею для сябе ўсвядоміць, дзе гэта — "тут", а дзе — "там"...)**

Было з чым параўноўваць. За доўгія гады журналісцкага жыцця і проста жыцця я пабачыў дастаткова шмат савецкіх помнікаў, а іншы раз і скульптур. Тэарэтычна "веданне" іх было нібыта часткай маёй прафесіі: я "выкладаў" эстэтыку ў 60-я гады, пачынаючы з "нуля": ні праграм, ні падручнікаў. Потым — праграмы без падручнікаў, а пазней — і праграмы, і падручнікі, па якіх можна было хіба што "выкладаць", але не вучыць. Даводзілася самому, — і не толькі мне, — усім, каго "кінулі на эстэтыку", — стварыць сабе падручнік.

Ды я проста любіў гэта: помнікі, "постаці" розныя, бюсты, партрэты, музеі...

... Канёнкаў — такая ў яго драўляная дзяўчына атрымалася... — першая ў маім жыцці "жывая" аголеная, "ню", значыць. А гадоў мне было тады, мабыць, шаснаццаць. Ужо калі быў дарослым, жанатым, пісаў пра народнага мастака Беларусі Бембеля. Ён паказаў мне творы сваіх вучняў-студэнтаў (запомнілася "Лучніца" Косці Сарокі, — сур'ёзная такая дзяўчына, здаецца, зараз сама замест стралы ў мішэнь паляціць, і — вельмі сексуальная яна ў Косці атрымалася: было зразумела, куды яна пойдзе, скончыўшы страляць...) — і павёў да сябе ў кабінет. І там я ўпершыню ўбачыў (магчыма, гэта і быў першы такі твор у СССР) не пагрудны, завешаны ордэнамі партрэт-фатаграфію героя вайны з нежывым тварам, а чалавека, які падае з неба, — чалавека-полымя, чалавека-помсту. Гэта быў Гастэла. У тыя часы — такая нечаканая смеласць і свежасць... Запомнілася.

А потым пашанцавала: у сотыя ўгодкі з дня нараджэння У.І.Леніна адразу тры мемарыялы (замест аднаго) атрымалі прэмію імя правадыра: Хатынь, Саласпілс і Сталінград. Даслала мяне рэдакцыя за "ўсімі трыма" — серыю трэба было зрабіць пра "ленінскія" мемарыялы.

Званы Хатыні... Я пісаў пра яе, калі яна была яшчэ недабудаванай. Цяжкая, жалобная цішыня лясного Саласпілса і ягоны метраном — з вайны, з-пад зямлі, і чорная ружа самотнай жанчыны ля падмурка дзіцячага барака.

І — велізарная, бетонная "Маці-Радзіма"... (Экскурсавод — пра твор мастацтва: "Постаць мае 82 метры ў вышыню, меч важыць 12 тон, на далоні можа размясціцца кафэ сярэдніх памераў...") Чым бліжэй падыходзіў я да "Радзімы" ад Волгі (там застаўся "жывы" подпіс: "Тут стаялі насмерць гвардзейцы Радзімава!"), тым больш яўна чуў я свой "унутраны" голас: "А што будзе, калі яна паваліцца?!" (Потым я даведаўся, што маё стыхійнае, "істэрычнае" пытанне не было пазбаўлена рэальных падставаў: стэпавыя вятры "зносяць" бетонная калоса з Мамаева кургана.)

...Мінчукі даўно прызвычаіліся да яшчэ даваеннага Леніна ля Дома ўрада, да Дзяржынскага і Купалы ў скверах, да Коласа па плошчы ягонага імя, да Багдановіча ля тэатра... А таксама да адрэстаўраванага "залатога хлопчыка" ля фантана, да дэкаратыўных фальклорных постацяў на праспекце Машэрава... А на аднаго з самых велічных "сталінаў" на Цэнтральнай плошчы горада ўжо, мабыць, забыліся. Я па ягонай віне аднойчы на працу спазніўся, на тры ўрокі. За ноч не здолелі разбурыць, сцягнуць і, нарэшце, раніцай заклалі дынаміт (згодна з парадай Маякоўскага) — так выбухнула, што ўсе шыбы ў квартале павыляталі. Пакуль разбіраліся, тралейбусы не хадзілі.

Што я яшчэ не ўзгадаў? Бадай, дзесятак "калінінаў", "русалак" і "фанфарыстак".

... Калі паездзіў-пахадзіў па Брэмене (горад — трэцяя частка Мінска) — малапавярховы, вольна раскінуты, — трошкі зварʼяцеў ад "іхніх" падыходаў да справы "манументальнай прапаганды". Не тое, што ў "іх" лепей, але — іншае. У нас — помнікі, у іх — скульптура. Ды такая, што іншы раз і носа не знойдзеш, а то нават і галавы. У нас — навечна і для ўсіх, хто з космасу праляціць. А ў іх — для таго, хто па вуліцы ідзе, альбо сядзіць на лаўцы ў парку, альбо на ровары едзе. Алея для веласіпедыстаў пралягае побач з турмой — усё застаўлена скульптурамі, што зробленыя зняволенымі.

Мастацтва, калі яно годнае, — дыялагічнае. Яно — нам, мы — яму. Нібыта "жывы з жывымі". Бо нават занадта цікаўны наконт інтымнага жыцця жаб "нехта" нам гаворыць такое, ад чаго мы міжволі ўсміхнемся.

Што гаворыць нам наш Уладзімір Ілліч або Фелікс Эдмундавіч? Пра што? А можа, рукатворны "Эверэст" — Курган Славы, — можа, ён распавядае пра салдат, якія тут загінулі? Ды хто туды цяпер ходзіць? Каму ён патрэбны, гэты монстр, не горш за сталінградскую "бабу з мячом", як клічуць у народзе гэты манумент?

Усе гэтыя "помнікі" (чытач несумненна разумее, што гэта — не агульная назва) — гэта ахоўныя памежныя слупы зоны камуністычнай маралі. Гэта антымаральныя слупы, да якіх прымацоўвалася жалезная заслона.

І я вырашыў: абавязкова напішу гэтую самую параўнальную характарыстыку. І, безумоўна, які можа быць артыкул пра скульптуру без здымкаў? Пачаў здымаць і — захапіўся. А калі пагледзеў тое, што зняў, рашэнне прыйшло само: навошта пісаць, хай глядзяць.

Пакіну толькі кароткае тэкставае суправаджэнне да здымкаў, самае неабходнае. Пра астатняе — мяркуйце самі.

**Навум ЦЫПІС,**
**наш уласны карэспандэнт у Брэмене**
**Фота аўтара.**

**P.S.** Вы пагледзелі на ўсё гэта, але, зразумела, толькі невялікая частка здолела трапіць у газету. А цяпер надышла чарга пацікавіцца нашымі "помнікамі". Ці стаіць яшчэ помнік Леніну ля Дома ўрада? А Скарына і Гусоўскі ўсё яшчэ "захоўваюцца" ў двары Дома літаратара? Ну, тады — усё добра, усё стабільна.

**Н.Ц.**



*Ну, гэта ўсім зразумела. Толькі вось "захапанасць" пярэдніх асліных ног трэба патлумачыць. Калі ўчапіцца за іх абедзвюма рукамі і загадаць жаданне... (Я там часам доўга стаю...)*



*Самая старая статуя ў горадзе — яна знаходзіцца на цэнтральнай плошчы з 1406 года. Раланд. Абаронца і апякун, адзін з рыцараў Карла Вялікага. Гэтую статую ў Брэмене шануюць нароўні з "аднайменнымі" музыкантамі.*



*Гэта дакладная копія жывога чалавека — самага старога ў раёне. Яму, бронзаваму, 100 гадоў.*



*Конных помнікаў у Брэмене, мабыць, шэсць. У асноўным гэта помнікі імператарам і старажытным легендарным міфічным героям. А вось гэты — Бісмарку.*



*А гэта — "помнік" тым, хто паліць: яму і ёй. Навошта? Што хацелі выказаць? Якая ідэя? Ніхто не ведае. "Такога" тут больш за што-небудзь іншае.*



*На адным з рагоў шматкіламетровай веласіпеднай алеі. Яму і бронзаваму цікава, як гэта атрымліваецца ў жаб. А я, калі ўбачыў гэта ўпершыню, — ледзь са смеху не памёр. Магчыма, дзеля гэтага таксама трэба ставіць "постаці", ці не так?*



*Гэтая "галава ў касцы" — помнік невядомаму дэзерціру. За тое, што захаваў жыццё. "Цяпер ягоныя (іх) дзеці будуюць Германію", — так мне растлумачылі "заслугі" ўцекачоў з войска. Гэты помнік распавёў мне пра тое, як Радзіма ставіцца да сваіх дзяцей. (Пра тое, як у нас — тлумачыць не трэба...) "Галава" стаіць у вестыбюлі "Народнага дома".*



*Гэты слон, сабраны з чырвонай цэглы, — "прэзент"-падзяка Германіі ад прэзідэнта Намібіі і яе народа за навуку, культуру і мяккае цывілізаванае кіраванне ў перыяд каланізацыі з 1884 па 1914 год. Помнік усталяваны ў Брэмене ў 1996 годзе. А мы ж думалі, што каланізатарскі "ўціск" капіталізму — гэта заўсёды кепска. А вось ужо адзін выпадак, калі быць "каланізаваным" — гэта не заўсёды быць пакрыўджаным.*

***У снежні ў Маскве адкры-лася галерэя "Рускі свет". Галерэя адраджае вялікія традыцыі рускага ювелірнага дызайну і майстэрства ў каштоўных металах і камянях. На паказ і на продаж у галерэі былі прадстаўлены скульптуры, дэкаратыўныя і ювелірныя ўпрыгожанні, зробленыя з рознакаляровага золата, срэбра, плаціны, аздобленыя каштоўнымі камянямі. Кожны з прадметаў быў задуманы рускімі мастакамі, уключаючы вядомага скульптара Эрнста Неізвеснага і прызнанага мастака Міхаіла Шэмякіна. Усе работы былі выкананы ў Нью-Ёрку выдатнымі ювелірамі пад кіраўніцтвам Фелікса Камарова, прэзідэнта і заснавальніка галерэі, якая была адкрыта ў Нью-Ёрку ў верасні 1996 года на Пятай Авеню на знакамітай музейнай мілі. Сярод твораў у Маскоўскай галерэі — залатыя і сярэбраныя фігуркі паводле дызайну Неізвеснага, брошы і метровыя сярэбраныя кандэлябры "Пятрушка" Міхаіла Шэмякіна, залатыя падвескі Ігара Цюльпанава. Іншыя сумесныя праекты, прадстаўленыя ў галерэі, — гэта работы паводле эскізаў Рустама Хамданава, Даратэі Шэмякінай, Алега Цалкова ("Чалавек у капелюшы") і новы твор Аляксандра Рукавішнікава ("Высоцкі, які іграе на гітары"). Самыя папулярныя работы, выстаўленыя ў галерэі, — гэта залатыя і сярэбраныя фігуркі Шэмякіна ў абмежаванай колькасці ("Карнавал у Санкт-Пецярбургу"), а таксама з серыі Эрнста Неізвеснага "Сэрца Хрыста" — скульптура і падвескі-крыжы розных памераў, выкананыя ў золаце і срэбры. Бронзавы арыгінал "Сэрца Хрыста" знаходзіцца на алтары капэлы Папы Яна III.***

# "ТВОРЯЩИЙ ЮВЕЛИРОВ ЮВЕЛИР..."



*М.Шэмякін. "Пятрушка".*

Пра рускае жыццё, дакладней, пра жыццё рускіх, воляю лёсу закінутых у Амерыку, напісана ўжо столькі кніг, што ў літаратуразнаўстве наспеў час вылучыць асобны жанр з асобнай назвай. Напрыклад, "Знесеныя ветрам". На жаль, апярэдзілі. На самай справе, якімі толькі вятрамі не прыносіла сюды нашых суайчыннікаў.

Фелікс Камароў — моцны чалавек, смелы чалавек, але перадусім, рускі чалавек. Не "стары", не "новы" — проста рускі, без удакладненняў і тлумачэнняў. Ён не лічыць сябе эмігрантам, ён нічога не пакідаў у Расіі і не шукаў аніякіх апраўданняў, каб заснаваць свой дом і бізнес у Амерыцы. Ён абраў яе, і яна яго прыняла: даўшы яму прастору, дастатковую для ўвасаблення ягоных планаў.

Вопыт нашых суайчыннікаў, якія наважыліся адкрыць сваю справу ў Нью-Ёрку, пачынаецца, зазвычай, з авалодання Брайтан-Біч. Але "размiначныя маршруты", карыстаючыся мовай альпіністаў, Фелікса Камарова з самага пачатку не цікавілі. Пятая авеню — сэрца Нью-Ёрка, ягоны хрыбет. Менавіта тут, на рагу Пятай авеню і 61-й вуліцы, побач з гатэлем "Plaza" і Цэнтрал-паркам, знаходзіцца галерэя "Рускі свет", прайсці паўз якую немагчыма, нават калі твае думкі заняты прадметамі значна больш празаічнымі, чым набыццё твораў ювелірнага мастацтва.

Але як і Масква не адразу будавалася, так і "Russian World Gallery" на Пятай авеню з'явілася не толькі з прычыны славалюбных намераў. Да гэтага быў шоу-бізнес у Расіі і маскоўскі "Ролс-Ройс" — прадпрыемства, на першы погляд, вар'яцкае, калі б ім кіраваў хто-небудзь іншы. Расія і Ролс-Ройс... Але такі ўжо метад Камарова: ад парадаксальнага на стадыі праекта — да рэальнага на стадыі ўвасаблення; ад хаатычнасці ідэі — да іерархіі і парадку ва ўсім; ад побыту, хатняй атмасферы — да дзелавых сувязяў і сяброўства. Дарэчы, набываць сяброў і заводзіць знаёмствы, што пазней перарастаюць у сяброўства, — адзін з прыродных талентаў Фелікса. У ягоным офісе захоўваецца цэлы архіў фатаграфій і запісаў — самыя выдатныя людзі, бліскучыя таленты і розумы сучаснасці: руская інтэлігенцыя, князі дома Раманавых, зорка амерыканскага баскетбола Майкл Джордан, маэстра Біжан, найпапулярнейшы ў Амерыцы акцёр Майкл Нуры, мэр Нью-Ёрка пан Джуліяні і шмат хто яшчэ. У Біжана ён апранаецца, з Майклам Нуры сябруе дамамі. Гэта беспамылковая інтуіцыя, асаблівая псіхалогія зносінаў з людзьмі плюс бачанне мэты ў яе завершаным, дасканалым выглядзе — складнікі камароўскага феномена.

Але вернемся да пачатку, да каранёў, — не тых, што застаюцца на старой радзіме і без якіх рускаму чалавеку горка на чужыне. Гаворка ідзе пра новыя карані — пра здольнасць "увайсці" ў новую рэчаіснасць. Пры ўсёй павазе да традыцый і звычаяў карэнных амерыканцаў, да іх сфармаванага істэблішмента і развітай дэмакратыі, варта зазначыць, што яны гранічна неахвотна дапускаюць у сваё кола людзей звонку. І неамерыканцу, каб зрабіцца тут



*Фелікс Камароў.*

"сваім", патрэбныя гады. Фелікс Камароў вырашыў гэтую задачу ва ўласцівай яму манеры — падрыхтаваны да Амерыкі, да яе спецыфічнага рытму, ён проста перанёс сябе ў яе рэчаіснасць, памножыўшы амерыканскі практыцызм на расійскую маштабнасць. Такія ж парадаксальныя, на першы погляд, ягоныя прычыны для заняткаў бізнесам. "Хтосьці займаецца гэтым, каб нібыта дапамагаць бедным, я ж хачу дапамагчы людзям багатым".

Рускія мастакі, нават тыя, хто даўно працуе тут, усё роўна застаюцца рускімі, і творы толькі нямногіх з іх экспануюцца ў амерыканскіх музеях, — своеасаблівы сертыфікат прыняцця амерыканскай традыцыяй. Вядомыя галерэйшчыкі, такія, як, да прыкладу, Нахамкін, ужо рабілі спробы "рускага прарыву" на мастацкі Алімп Амерыкі. І сутыкаліся з усё той жа гумавай сцяной. Фелікс Камароў паставіў задачу прадставіць рускае мастацтва, з усім ягоным непадабенствам, у ракурсе, звыклым для ўспрыняцця амерыканцаў. Ён працуе толькі з "самымі з самых" — з мастакамі першага эшалона. У ягонай галерэі прадстаўлены такія велічыні, як Міхаіл Шэмякін, Эрнст Неізвесны, Аляксандр Рукавішнікаў, Алег Цалкоў, Юрый Купер, Дзмітрый Плавінскі, Ігар Цюльпанаў, Рустам Хамдамаў, Аляксандр Захараў, Даратэя Шэмякіна. Незвычайная сама ідэя аб'яднання, канцэнтрацыі іх у адным месцы — такіх розных, непадобных, якія ў штодзённым жыцці часам не ўспрымаюць адзін аднаго. У гэтым сэнсе ўжо сама назва галерэі "Рускі свет" — сімвалічная.

Але галоўнай інвенцыяй Фелікса, справай, якой ён прысвяціў сябе, стала ювелірная вытворчасць. Перанясенне графічных вобразаў, створаных талентам мастакоў, у аб'ёмную пластыку — гэта і ёсць той фокусны пункт, дзе ўспрыманне мастацтва рускімі і амерыканцамі перакрыжоўваецца. І ягоная "Russian World Gallery" — сапраўдны рускі свет у сэрцы Нью-Ёрка — свет у тым сэнсе, як трактаваў гэтае слова Талстой.

У адрозненне ад галерэйшчыкаў, якія спрабуюць прадаваць рускую ідэю, больш дакладна, яе паўфабрыкат, Фелікс Камароў вырашыў развіць яе да дасканаласці. Нездарма яго называюць перфекцыяністам. Кожны ювелірны твор ён вядзе ад стадыі абмеркавання з аўтарам і зацвярджэння эскізаў да гатовай рэчы. Ягоная "Russian World..." — не проста галерэя, — гэта яшчэ і вытворчасць: неабходна адшукаць мінералы, рэдкія камяні. Працоўны дзень Фелікса займае практычна цэлыя суткі і сканчваецца а трэцяй гадзіне ночы. Штодзень ён каардынуе і карэкціруе працу ювеліраў, занятых у трох ягоных майстэрнях.

Кожны, хто працуе з Феліксам, адзначае ягоную няўрымслівую энергію і няздомную волю. Валодаючы апрача ведання тэхналогіі яшчэ і тонкім адчуваннем людзей, ён умее пераканаць іх у тым, што мае рацыю і, у рэшце рэшт, дамагаецца ад іх жаданага выніку. Эрнст Неізвесны пасля працы над "Кентаўрам" назваў Фелікса сваім суаўтарам. Менавіта Фелікс, паводле словаў Юрыя Купера і Ігара Цюльпанава, падштурхнуў іх да стварэння ювелірных калекцый. А знакамітыя пятрушкі і карнавальныя персанажы Міхаіла Шэмякіна, пакінуўшы ягоныя палотны, набылі другое жыццё ў пластычных фігурках.

Пошук новых імёнаў і новых ідэй не перапыняецца. Паводле эскіза Эрнста Неізвеснага выкананы цудоўныя статуэткі "Залатога эльфа", прызначаныя лаўрэатам прэміі "Трыумф". Выраблены спецыяльны прыз Яўгену Кісіну — сярэбраны раяль з мініяцюрнай стэлай з лазурыту. Паводле накідаў Рустама Хамданава выканана статуэтка прэміі "Glory" — для Мсціслава Растраповіча. Сапраўдных знаўцаў ювелірнага мастацтва, напэўна, зацікавіць новы праект Фелікса Камарова і Аляксандра Захарава — разумнага і іранічнага мастака, карціны якога з задавальненнем набываюць такія людзі, як Олівер Стоўн і Нікалас Кейдж. Прыгатаваныя спецыяльныя прызы і для рускай хакейнай пяцёркі дэтройцкай "Red Wings", — чэмпіёнаў Кубка Стэнлі.



*М.Шэмякін. "Карнавал у Санкт-Пецярбургу". Фігура 4.*

Сёння "Рускі свет" Фелікса Камарова — рэчаіснасць у жорсткім мастацкім свеце Амерыкі, галерэя, якая працуе па крытэрыях амерыканскага рынку — рэальнасць, ад пачатку і да канца пабудаваная талентам Фелікса Камарова. Ён — крэатар, стваральнік, дойлід, self-made man, як кажуць амерыканцы. І ўсё, да чаго ён дакрануўся, усё, створанае ім, — зроблена ўсур'ёз і надоўга. І Ролс-Ройс у Маскве, і кватэра ў Манхэтэне, і ягоны гонар — "Russian World Gallery". Але, бадай, самае галоўнае — ягонай энергіяй ствараюцца самі людзі, іхнія новыя творчыя магчымасці. Бізнесмен робіцца творцам, мастак робіцца ювелірам. Яўген Еўтушэнка так сказаў пра Фелікса Камарова:

*"... ещё он удивит наш*
*скучный мир —*
*Творящий ювелиров ювелир".*

Развітваючыся з Феліксам, я папытаўся ў яго, у чым усё ж ягоны сакрэт. Паразважаўшы, Фелікс адказаў: "Асаблівых сакрэтаў няма. Я ва ўсім імкнуся да дасканаласці. Кожную сваю ідэю, у якой не існуе дробязяў, я даводжу да канца. І ўсё, што зрабіў, жыве і развіваецца. Я захацеў займацца Ролс-Ройсам — я атрымаў гэты бізнес. І я ведаю яго з сярэдзіны. Гэтаксама, як я дасканала ведаю ювелірную вытворчасць: ад працы з мастакамі — да працэсу ліцця. Калісьці перада мной паставілі пытанне: "Фелікс, дык хто ж ты паводле прафесіі?" Мне здаецца, я адказаў правільна: "Паводле прафесіі я — прафесіянал".

**Аўтар матэрыялаў — наш уласны карэспандэнт у Маскве Андрэй БЯРЭЗІН.**



## САМЫ НЕЗАЛЕЖНЫ "ТРЫУМФ"

Нарэшце абвешчаны лаўрэаты самай шчодрай узнагароды ў галіне культуры — штогадовай прэміі "Трыумф", што існуе з 1992 года. За выдатныя заслугі ў галіне літаратуры і мастацтва: беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч — сёлета пабачыла свет яе новая кніга "Чарнобыльская малітва". Таксама залатую статуэтку разца Эрнста Неізвеснага і 50 тысяч долараў ЗША 7 студзеня новага года атрымалі Барыс Грабеншчыкоў, найстарэйшы харэограф Ігар Майсееў, авангардны кампазітар з Эстоніі Арва Пярт і рэжысёр з Кіева Віктар Касакоўскі, які сабраў шматлікія прэміі за свае дакументальныя фільмы.

Прыз "Трыумф" — незалежная расійская ўзнагарода, мэта якой, перадусім, заахвочванне выдатных дасягненняў у літаратуры і мастацтве. Сёлетнімі пераможцамі сталі: пісьменнік Уладзімір Вайновіч, піяніст Яўген Кісін, кінарэжысёр, сцэнарыст і мастак Рустам Хамдамаў, кінарэжысёр і сцэнарыст Рэзо Габрыядзе, аўтар і вядучы тэлевізійнай праграмы Леанід Філатаў. Пераможцы таксама падзялілі грашовую ўзнагароду ў памеры 100 тысяч амерыканскіх долараў.



Прыз "Слава" (Глорыя) сцвярджае Расію як міжнародны цэнтр музыкі. Сёлетні пераможца, ураджэнец Расіі, дырыжор і музыкант Мсціслаў Леапольдавіч Растраповіч быў абраны сярод найвыбітнейшых музыкантаў усяго свету.

# КІШЭННІК І МІЦКЕВІЧ

Большасць людзей чула і бачыла злодзеяў-кішэннікаў толькі ў кіно. Памятаеце, Жаглоў з фільма "Месца сустрэчы змяніць нельга" распавядаў, як прафесійныя кішэннікі наточваюць пятакі, каб незаўважна праразаць торбы сваіх ахвяр. А помніце, як Жаглоў-Высоцкі зухавата, усяго пару дзён пакатаўшыся ў маскоўскіх трамваях, залавіў за "гарачую руку" хітрага Кірпіча! І ў тым жа фільме прагаворвалася, што распладжваецца гэткая шваль у неймаверных колькасцях, калі ўвесь народ перажывае не лепшыя часы.

Вось і я, дажыўшы да 28 гадоў, ні разу, хаця штодзень езджу на працу з трыма перасадкамі, не сустракаўся з транспартнымі злодзеямі, пакуль... Пакуль зусім нядаўна не заўважыў, як спыніліся тралейбусы, таму што тралейбус, які першым падышоў да прыпынку, не адчыняў дзверы і не рухаўся з месца. Пасля з яго выскачыў вадзіцель, пазваніў па бліжэйшым тэлефоне-аўтамаце, зняў штангі і, не выпускаючы людзей, пачаў чагосьці чакаць. Сітуацыя раз'яснілася, калі да тралейбуса пад'ехала міліцэйская машына і самі пасажыры вывелі багата апранутага дзецюка-кішэнніка.

Але на той раз гэта асабіста мяне не кранала, я быў пабочным сведкам, а можа і зявакам. А вось нядаўна я ехаў у метро. Была страшэнная бітмань — дзверы ледзь-ледзь зачыніліся. Маю торбу, пашытую з тоўстай джынсавай тканіны, проста заціснула ў шчыльным натоўпе. І тут мне падалося, што яна камусьці перашкаджае, бо за яе ціхутка тарганулі. Я паглядзеў у шыбу дзвярэй, як у люстэрка, і ўбачыў "нявінныя" вочы мужчыны 35—40 гадоў. "Вы зараз будзеце выходзіць?" — мякка, спакойна выпытвалі яны. На яго ветлівы позірк я адказаў не меней ветлівым жэстам — вырваў з цяснага затачэння сваю торбу, каб яна яму не перашкаджала. Болей гэтых вачэй я не бачыў. Але дома я ўбачыў зусім іншую карціну: філігранна, з верху амаль да самага нізу, раўнюсенькім прарэзам была распаласавана мая торба. І мала таго — разрэзанымі аказаліся і цэлафанавы пакет, і... агульны сшытак, якія ляжалі ў ёй. Хіба зладзейскай зброяй быў мядзяны пятак? Ці штосьці больш сучаснае...

Увогуле ўсе мае рэчы былі на месцы, проста цуд выратаваў іх ад таго, каб яны не былі параскіданыя па ўсім працягу Партызанскага праспекта і вуліцы Ангарскай, дзе я ў той дзень ездзіў і хадзіў.

Мэта злодзея зразумелая: прарэзць торбу, каб адтуль выпаў вацок, напоўнены грашыма, але не вельмі ясная яго псіхалогія, бо наўрад ці па маім выглядзе, маёй вопратцы, скажаш, што ў маёй ношанай-пераношанай торбе можа быць нешта каштоўнае. Праўда, каштоўнае і нават бясцэннае ў маёй торбе ў той момант насамрэч было — менавіта той парэзаны злодзеем сшытак быў не што іншае, як рукапіс перакладу паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды". Каб ён знік, то ні я, ні хто іншы не аднавіў бы яго. Але зусім неверагодна, што злодзей хацеў скрасці гэты сшытак.

І ўсё ж выснову зрабіць можна: у галодным грамадстве, злодзеі таксама галодныя, яны кідаюцца нават на худасочных, і ўважлівым трэба быць усім. Вось яшчэ адзін доказ таму: літаральна на наступны дзень (праўда!), як злодзей парэзаў маю торбу, на "Камароўцы" быў зроблены "нажавы замах" на скураны заплечнік майго сябра, — яго месячны аклад мільён семсот,— а на рынак ён зайшоў, як гэта не празаічна, купіць патанней туалетнай паперы. Якое было яго здзіўленне, калі скруткі адзін за адным пакаціліся па брудным тратуары.

Аднак тым, хто прынцыпова не носіць торбы і заплечнікі (а заплечнікі на сённяшні дзень вельмі модныя сярод моладзі), таксама нельга расслабляцца. Другі мой знаёмы распавядаў, як бачыў жанчыну, якая галасіла са слязамі на вачах — у яе паліто акурат у тым месцы, дзе знаходзіцца ўнутраная кішэня, была выразана вялікая дзірка — у той кішэні ляжаў вацок з месячным заробкам.

Цяпер я езджу ў метро, тралейбусах, аўтобусах і лаўлю сябе на думцы, што хачу ўбачыць, адшукаць тыя самыя нахабна непалахлівыя вочы.





*Ахвяра здарэння, ён жа — аўтар тэксту Серж Мінскевіч.*

Але ж і цяжка гэта! Стыхія кішэннікаў — натоўп.

**Серж МІНСКЕВІЧ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

**ЗАМЕСТ P.S.**

Вярнуўся адзін мужычок з шабашкі ў горад. Паглядзеў на людзей, пасля на сябе. Патыліцу пачухаў. Ватоўка на ім старая, дзіравая. От, няма кажуха цёплага, моцнага і ладнага. Пайшоў на рынак, бачыць другі — мужык не мужык, цыган не цыган, прадае акурат такі кажух, як ён і хацеў. І кошт даволі цярпімы, хаця не малы, вось каб толькі ў плячах кажух малаваты не быў.

— Дай прыкінуць, — кажа прадаўцу.

А той не дае веры, маўляў, ватоўка ў цябе не надта што выглядае.

— Ты вось,— кажа той цыган не цыган, — спярша грошы пакажы. А то ве-ем такіх, апранеш і ў натоўп. Крычы пасля, шукай.

Ну, наш мужычок, нядоўга думаючы — руку ў бок, у кішэнь — і дастае — у прадаўца нават дух перахапіла — пухнаты пачак соценных (даляраў).

— На, прымер, — ледзь выціснуў прадавец, не адводзячы вачэй з пачку.

Мужычок бярэ свае грошы, нехлямяжна засоўвае назад у бакавую кішэню, скідае з сябе ватоўку, дае прадаўцу, а сам нацягвае на сябе кажух.

А той цыган не цыган, прадавец не прадавец, хоп за ватоўку і давай лататы, і ў натоўп.

— Трымай яго! Трымай! — крыкнуў пару разоў мужычок, а пасля развярнуўся і сам растаяў між людзей.

Кішэняў-то ў яго ватоўцы і не было, адзін выгляд толькі, а так — дзірка суцэльная, чаго не скажаш пра ягоны пінжачок...

# КРЫЖАВАНКА




**Па гарызанталі:**

**7.** Беларускі драматург XX ст., народны пісьменнік Беларусі. **8.** Архітэктар XX ст., адзін з заснавальнікаў савецкай архітэктуры Беларусі. **9.** Беларуская спявачка (лірычнае сапрана), народная артыстка Беларусі, у 1952 — 84 гг. салістка Дзяржаўнага тэатра оперы. **11.** Барва, колер, тон. **12.** Беларускі паэт XIX ст., аўтар зборніка "Дудка беларуская". **15.** Праўда. **18.** Кампазітар XIX — XX стст., аўтар музыкі да балета "Дон-Кіхот". **19.** Амерыканскі пісьменнік XIX — XX стст., аўтар "Трылогіі жадання". **20.** Сучасная эстрадная спявачка (Эстонія). **21.** Беларуская паэтка XX ст., аўтар зборніка для дзяцей "Юрачка". **23.** Малюнак, выкананы мяккімі каляровымі алоўкамі. **26.** Беларускі жывапісец, аўтар карціны "Новы Мінск". **27.** Агульнапрыняты парадак, правіла, якое здаўна ўкаранілася ў быце народа. **31.** Карціна рускага жывапісца XIX — XX стст. У.Я.Макоўскага. **33.** У рымскай рэлігіі багіня шлюбу. **34.** Дробныя каляровыя шкляныя пацеркі для расшыўкі адзення. **35.** Французскі жывапісец XVIII — XIX стст., аўтар карціны "Арэлі". **36.** Устойлівае вобразнае выслоўе павучальнага зместу.

**Па вертыкалі:**

**1.** Мастак, аўтар карцін, на якіх адлюстраваны марскія краявіды. **2.** Апавядальны твор вуснай народнай творчасці. **3.** Французскі эстрадны фрывольны танец. **4.** Ярка-чырвоная фарба. **5.** Сукупнасць строга акрэсленых дзеянняў, якімі суправаджаецца выкананне бытавых традыцый. **6.** Опера Дж.Вердзі. **10.** Сучасны рускі кампазітар, аўтар музыкі да балета "Ангара". **13.** Беларускі скульптар XX ст., народны мастак Беларусі, аўтар помніка Я.Купалу ў Мінску. **14.** Беларуская артыстка балета і педагог, народная артыстка Беларусі. **16.** Найбуйнейшы мастацкі музей у Санкт-Пецярбургу. **17.** Беларускі скульптар XX ст., аўтар гарэльефа для Манумента Перамогі ў Мінску. **22.** Кубінскі народны танец. **24.** Опера Дж.Пучыні. **25.** Беларускі акцёр і рэжысёр XX ст., народны артыст СССР, у 1929 — 81 гг. у Беларускім тэатры імя Я.Купалы. **28.** Той, для каго прафесіяй з'яўляецца ўтварэнне голасам музычных гукаў. **29.** Дзеючая асоба ў творы Г.Ібсена "Пер Гюнт". **30.** Друкаванае выданне ў форме збрашураваных і пераплеценых разам аркушаў. **32.** Персанаж рамана Ч.Айтматава "Плаха".

**Крыжаванку склала Любоў ІОНАВА**

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, НАДРУКАВАНУЮ Ў № 47 ЗА 1997 ГОД**

***Па гарызанталі:***

5. Шамякін. 6. Бурштын. 10. Агата. 11. Авіньён. 12. Статыст. 13. Дэліб. 15. Інка. 17. Твар. 18. Маўр. 20. Шаль. 21. Астрыд. 22. Зарэма. 25. Брат. 26. "Ніва". 27. Глюк. 28. Крап. 32. Чарот. 33. Тарасаў. 34. Заслона. 35. Кубак. 37. Адценне. 38. Крапіва.

***Па вертыкалі:***

1. Смальта. 2. "Аіда". 3. "Туга". 4. "Стажары". 7. Таверна. 8. Кафля. 9. Пастэль. 13. Драздовіч. 14. Бранзалет. 16. Афсет. 17. Турын. 19. Рурык. 20. Шымук. 23. Брыгада. 24. Паданне. 29. Постаць. 30. Труба. 31. Аксаміт. 35. Кіно. 36. Корш.

К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара),
**Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар),
**Валерый ГЕДРОЙЦ,**
**Уладзімір ГІЛЕП, Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ,**
**Аляксей ДУДАРАЎ,**
**Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ,**
**Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела),
**Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела),
**Міхаіл ПТАШУК, Алесь РАЗАНАЎ,**
**Віктар СКОРАБАГАТАЎ,**
**Юрый ЦВЯТКОЎ, Леанід ШЧАМЯЛЁЎ.**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Міхась БАШУРА, Жанна ВАСАНСКАЯ, Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Зміцер ВІШНЁЎ, Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4202.

Падпісана ў свет 9.01.97. у 16.00.

Замова 84.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**